Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4816) 24 красавіка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Уладзіміра Васільева з юбілеем. «Валодаючы выразнай пластыкай, яркім драматычным талентам, дзівоснай музыкальнасцю, Вы ўвасобілі ў сваім майстэрстве найвышэйшыя дасягненні класічнага балета. За гады працы на сцэне Вялікага тэатра Вамі створана шмат незабыўных роляў, якія па праве ўвайшлі ў скарбніцу рускай балетнай школы», — адзначаецца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Эдуарда Ханка з 75-годдзем. «Сваёй плённай дзейнасцю Вы зрабілі значны ўклад у развіццё і папулярызацыю нацыянальнай музычнай культуры. Ваш творчы багаж уражвае разнапланавасцю пры нязменна высокім прафесійным узроўні. Сімфанічныя, камерныя творы, музыка да спектакляў і кінафільмаў набылі шырокую вядомасць, прынеслі славу айчыннаму мастацтву далёка за межамі Беларусі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прадставіць экспазіцыю ў Маскве на міжнароднай выстаўцы «У барацьбе супраць нацызму мы былі разам». Зусім хутка яна адкрыецца ў мастацкай галерэі Цэнтральнага музея Вялікай Айчыннай вайны на Паклоннай гары. Тут будзе прадстаўлена і дыярама невялікага фармату, створаная мастаком-рэстаўратарам Ю. Герасімовічам, якая распавядае пра пачатковы перыяд вайны.

✔ Да 70-годдзя Вялікай Перамогі і да Года моладзі Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы пры падтрымцы ўпраўлення адукацыі г. Мінска праводзяць фінал гарадскога конкурсу творчых работ «Купаляняты». Пераможцы будуць вызначаны ў дзвюх намінацыях: «Лепшы чытальнік вершаў» (па творах Янкі Купалы і іншых беларускіх паэтаў, прысвечаных ваенным падзеям) і «Лепшы казачнік» — на лепшае напісанне і прэзентацыю казкі.

✔ Балетная трупа Вялікага тэатра Беларусі выступіла ў Парыжы са спектаклем «Лебядзінае возера» Пятра Чайкоўскага на адной з самых прэстыжных пляцовак — у Зале Кангрэсаў. Гастролі праходзяць у межах Дзён беларускай культуры ў Францыі. Пастаноўкі беларускага балета ўбачаць у 26 французскіх гарадах.

✔ Міжнародная канфедэрацыя тэатральных саюзаў завяршыла адбор спектакляў для II Маладзёжнага тэатральнага форуму, што пройдзе ў Мінску ў канцы 2015 года. Экспертны савет, у склад якога ўвайшлі аўтары тэтныя дзеячы мастацтваў і крытыкі, праглядзеў больш як 100 спектакляў. Сярод 13 лепшых Беларусь будзе прадстаўлена «Гамлетам» у пастаноўцы Магілёўскага абласнога тэатра лялек.

ISSN 0024-4686



# Кожнае выданне — шэдэўр!



Фота Кастуся Дробава

Знаёмства з экспазіцыяй «Радзівілы і кніга».

**У межах XI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Беларусі XI — пачатку XX ст.» у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстаўка «Радзівілы і кніга», прысвечаная творчым асобам аднаго з найбуйнейшых магнацкіх родаў Еўропы. Выданні, прадстаўленыя ў экспазіцыі, датуюцца XVII — XX стагоддзямі, многія з іх маюцца ў нашай краіне ў адзінкавых экзэмплярах, некаторыя — нядаўна вернуты ў Беларусь пры падтрымцы дзяржавы і прыватных асоб. Шырокай публіцы дэманструюцца ўпершыню.**

Адкрыццё друкарняў і бібліятэк, выдавецкая і асветніцкая дзейнасць, стварэнне першага ў Беларусі прафесійнага тэатра. Гэтыя падзеі цесна звязаныя з імёнамі прадстаўнікоў розных пакаленняў старажытнага роду Радзівілаў. Іх бібліятэка ў Нясвіжы была заснавана ў XVII ст. і стала адной з найбуйнейшых кніжніц у краіне. Тут захоўваліся не толькі стадрукі, але і асноўныя рукапісы, архіўныя матэрыялы ўсяго роду. У сярэдзіне XVIII ст. бібліятэка Радзівілаў налічвала 9 тысяч тамоў, а ў 1772 годзе — больш як 20 тысяч. Кнігі антычных аўтараў, гістарычныя і юрыдычныя выданні, рэфармацыйныя творы дзякуючы магнатам былі даступныя для шматлікіх адукаваных людзей таго часу. У кнігах з радзівілаўскага збору шмат маргіналій, экслібрысаў, пячатак, якія сведчаць пра жывы інтарэс да бібліятэк як да дзяржаўнага кнігасховішча.

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, кандыдат культуралогіі Алесь Суша падчас адкрыцця выстаўкі распавёў:

— Так сталася, што «буржуі», як называлі Радзівілаў у савецкіх энцыклапедыях, з цягам часу сталі сябрамі старога беларускага вялікакняжаскага грамадства, паўнавартаснымі ўдзельнікамі культурнага працэсу. І сёння ў Нясвіжы, Міры, Мінску кажуць «нашы Радзівілы» ў самым добрым разуменні. Яны спрычыніліся да таго, каб Беларусь стала краем з багатай культурай, падтрымлівалі кнігавыданне. Так, першая друкарня на тэрыторыі Беларусі была заснаваная ў Брэсце пры падтрымцы Радзівілаў. З іншага боку, прадстаўнікі гэтага магнацкага роду здолелі сябе паказаць і як творцы на літаратурнай, навуковай ніве, і многія з прадстаўленых на выстаўцы выданняў — добрае пацвярджэнне таму. Тут безліч каштоўных, багатых па геаграфіі, мовах, жанрах, значэнні твораў, кніжных помнікаў, што складаюць частку нашай культуры. Сёння мы паказваем і помнікі, якія раней ніколі не выстаўляліся. Некаторыя з іх трапілі ў зборы Нацыянальнай бібліятэкі зусім нядаўна. Нешта набытае, нешта атрымана ў падарунак. Тут варта падзякаваць спадарыні Моніцы Банькоўскі са Швейцарыі, якая не так даўно перадала нам шэраг цікавых выданняў.

Так, у наведвальнікаў выстаўкі, што праходзіць у музеі кнігі НББ, ёсць унікальная магчымасць убачыць адзіны на Беларусі экземпляр выдання XVIII ст. драматычных твораў Францішкі Уршулі Радзівіл «Камедыі і трагедыі» з гравюрамі Міхала Жукоўскага, зробленымі па эскізах княгіні. Знаўца творчасці Францішкі Уршулі Радзівіл, доктар філалагічных навук Жанна Некрашэвіч-Кароткая падкрэсліла:

— Радзівілы былі носьбітамі высокай культуры. Важна было не тое, што яны мелі шмат грошай, але тое, як яны імі распараджаліся. Вядома, што і муж Францішкі Уршулі Міхал Казімір Радзівіл таксама быў звязаны з кнігамі і літаратурай. Ён быў аўтарам «Дыярыуша» і таксама падтрымліваў многія друкаваныя выданні. Быў і мецэнатам. Вядома, што менавіта Францішка Уршуля займалася папаўненнем замкавай бібліятэкі: дзякуючы яе намаганням колькасць тамоў павялічылася, па розных звестках, аж на 25 тысяч асобнікаў.

Чытайце на стар. 9

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Мікалай ЧАРГІНЕЦ: «Нашу літаратуру ведаюць у свеце...»

**За гады сваёй дзейнасці Саюз пісьменнікаў Беларусі даволі інтэнсіўна развівае міжнародныя кантакты. Сведчаннем таму дзясяткі сустрэч з літаратарамі іншых краін, у тым ліку міжнародны «круглы стол» «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго», які СПБ ладзіць сумесна з Міністэрствам інфармацыі, Выдавецкім домам «Звязда», ды іншыя творчыя і арганізацыйныя праекты. Гэтая тэма і стала прадметам гутаркі са старшынёю СПБ Мікалаем Іванавічам Чаргінцом.**



**— Скажыце, калі ласка, ці ёсць пэўны міжнародны вектар, кірунак у стасунках Саюза пісьменнікаў Беларусі ў апошнія гады?**

— Калі пад вызначэннем вектара разумець, куды, у які бок пазірае наша творчае аб'яднанне, то адкажу дастаткова прама. Міжнародная дзейнасць СПБ цесна ўвязана з памкненнямі нашай краіны ў знешнепалітычным аспекце ў цэлым. Мы ўважлівыя да той знешнепалітычнай дзейнасці, якую праводзіць дзяржава.

Асновай нашых стасункаў са светам з'яўляюцца як традыцыі, так і досвед, набыты ў апошні час. Да многага абавязвае стварэнне Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Адпаведна — і развіццё стасункаў з Саюзам пісьменнікаў Расіі на чале з Валерыем Ганічавым. Ды і часопіс, які выпускае наш Літаратурны фонд, «Белая Вежа», сарыентаваны на публікацыю твораў пісьменнікаў Беларусі і Расіі. Гэта і ажыццяўляецца.

Актыў нашай арганізацыі бярэ ўдзел у многіх мерапрыемствах, якія ладзяць літаратары Расіі. Мы вельмі ўдзячны рэдакцыі часопіса «Наш современник» за прапаганду беларускай літаратуры на рускай мове. Гэта своеасаблівы мост, які дапамагае ісці наперад, мець вядомасць праз рускую мову, што вельмі значна для многіх нашых калег.

**— Мікалай Іванавіч, відавочна, і ўвогуле постсавецкая прастора цікавая для Саюза пісьменнікаў Беларусі...**

— Несумненна. Нават прыводжу такі факт: членамі СПБ з'яўляюцца таджыкскі драматург і празаік Ато Хамдам, азербайджанскі паэт Чынгіз Аліаглу, малдаўскі літаратар Юрый Іваноў, армянскі паэт Эдвард Мілітанян... Не засталіся ўбаку ў гэтым плане і Латвія, Літва. Вітаутас Жэймантас і Яронімас Лауцюс — літоўскія пісьменнікі — увaходзяць у нашу творчую супольнасць. Паэт Станіслаў Валодзька — наш зямляк з Латвіі — таксама ў складзе СПБ. А пра Яронімаса Лауцюса хацеў бы сказаць асобна. Ён жыве і працуе ў Вільнюсе. Выдае дзіцячы часопіс «Тры зорачкі», з'яўляецца дырэктарам выдавецтва, сарыентаванага на дзіцячую літаратуру. І вельмі шмат выдаецца ў Беларусі. Ведаю, што ў апошнія гады яго кнігі пабачылі свет у мінскіх выдавецтвах «Мастацкая літаратура», «Адукацыя і Выхаванне», «Пачатковая школа»... Дарэчы, не толькі на рускай мове, але і па-беларуску.

**— Помніцца, шырокі розгалас сярод пісьменнікаў, асабліва ў Мінску, выклікаў «круглы стол» беларускіх і казахскіх пісьменнікаў...**

— З Казахстанам, казахскімі калегамі ў нас сяброўства асаблівае. Як палітык я ў розныя гады прыкладваў шмат намаганняў для ўмацавання беларуска-казахстанскіх стасункаў. Саюз пісьменнікаў Беларусі сябруе з Нацыянальным саюзам пісьменнікаў Казахстана. Нурлан Аразалін, вершы якога актыўна друкуюцца па-беларуску, — мой добры сябар. І, праводзячы «круглы стол», мы ладзілі сустрэчу менавіта з сябрамі, размаўлялі на адной мове пабрацімства. Госцем Дома літаратара быў і Алжас Сулейменаў, паэт, якога лічаць за гонар прымаць у любых залах, у любых аўдыторыях. Прыемна, што нашы выдаўцы парупіліся, каб перакласці і выдаць пабеларуску творы шматлікіх казахскіх пісьменнікаў. Ведаю, у «Полымі» друкаваліся вершы Алжаса Сулейменава, Нурлана Аразаліна, вялікага Абая Кунанбаева, пераўвасобленыя на беларускую мову Міколам Мятліцкім.

**— Такая праца, пэўна, магчымая, калі ёсць энтузіясты, ініцыятары...**

— Сапраўды, шмат залежыць ад творчай ініцыятывы пісьменнікаў. Між іншым таварыствы дружбы з замежнымі краінамі ўзначальваюць пісьменнікі Мікола Мятліцкі, Зіновій Прыгодзіч, Навум Гальпяровіч, Георгій Марчук, Алесь Карлюкевіч. Як прыклад хацеў бы адзначыць дзейнасць Ірыны Качатковай, якая шмат зрабіла па перакладзе літаратуры Таджыкістана, Кыргызстана, іншых краін на беларускую мову.

Рэзананс займеў выдавецкі праект «Звязды» «Сугучча сэрцаў», які прадставіў беларускую літаратуру і літаратуры краін Садружнасці ў адзінаццаці тамах. Невыпадковым з'яўляецца і тое, што гэтая справа адзначана прэміяй СНД «Зоркі Садружнасці». Прэзентацыі кніг серыі прайшлі не толькі ў Беларусі, але і ў Казахстане, Украіне, Азербайджане, іншых краінах. Сам факт выдання серыі, арганізацыі такога шырокага праекта паспрыяў фарміраванню асяродка сяброў беларускай літаратуры. Кнігі «Сугучча» сёння з'яўляюцца асновай для перакладчыцкіх памкненняў па знаёмстве з беларускім мастацкім словам у краінах Садружнасці. Ведаю, што ў Казахстане, Туркменістане, Азербайджане рыхтуюцца «беларускія нумары» літаратурна-мастацкіх часопісаў, анталогіі беларускай літаратуры.

**— Мікалай Іванавіч, а калі гаварыць пра перспектывы, планы ў развіцці міжнародных літаратурных стасункаў...**

— Планаў у нас дастаткова шмат. Яны ў значнай ступені звязаны з тым, каб прасоўваць нашы здабыткі ў краінах Еўропы, Азіі. Склалася неблагая пляцоўка па супрацоўніцтве з пісьменніцкай супольнасцю Турцыі. Спадзяёмся на развіццё адносін з Польшчай, Чэхіяй, Славакіяй, Балгарыяй, Азербайджанам... Дзякуючы старшыні секцыі перакладу СПБ прафесару Івану Чароту выбудаваліся выдатныя адносіны з Сербіяй. Думаю, што яны і надалей будуць умацоўвацца. Сучасная беларуская літаратура вартая таго, каб яе ведалі ў свеце!..

Гутарыў
**Сяргей ШЫЧКО**

# Прынятыя ў СПБ



**Вацлаў Антонавіч ХАДАСЕВІЧ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 1 студзеня 1937 года ў пасёлку Воўчкавічы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Грычынскую сямігодку. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў на розных сталічных прадпрыемствах, у тым ліку на Мінскім заводзе электронных вылічальных машын імя С. Арджанікідзэ. Аўтар паэтычных зборнікаў «Арган» (2009), «Помню і люблю» (2009), «Жыццё пражыць — не поле...» (2013), «Рэха часу» (2014), «Вершаваная проза» (2014).



**Алёна Мікалаеўна ПАПКО**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 24 лютага 1990 года ў вёсцы Сакалова Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла факультэт замежных моў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна. Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя Максіма Багдановіча ў намінацыі «Паэзія», абласнога літаратурнага конкурсу для дзяцей і юнацтва, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Брэстчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

# У Калмыкіі — па-беларуску

Юбілей загадчыка кафедры рускай і замежнай літаратуры Калмыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдата філалагічных навук, паэтэсы і перакладчыцы Рымы Ханінавай у Элісце адзначылі і выхадам навучальнага дапаможніка «Дыялогі ў часе і прасторы: паэзія Рымы Ханінавай». Літаратуразнаўца і пісьменніца з Калмыкіі — добры сябра беларускай літаратуры. Дачка беларускага партызана і калмыцкага паэта Міхаіла Хонінава, яна прыкладае шмат намаганняў для ўмацавання беларуска-калмыцкіх літаратурных сувязей.

Рыма Міхайлаўна сябруе з бібліятэкамі тых мясцін, дзе партызаніў паэт Міхаіл Хонінаў — легендарны Міша Чорны. У беларускай перыёдыцы друкуюцца вершы Р. Ханінавай, яе артыкулы пра пабрацімства пісьменнікаў Беларусі з калмыцкімі калегамі.

У якасці дадатку ў навучальным дапаможніку змешчаны гутаркі з Р. Ханінавай, карэспандэнцыі, прысвечаныя калмыцкім пісьменнікам — дачцэ і бацьку. У тым ліку — з беларускіх газет, часопісаў: «Народная газета» («Союзное вече»), «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Полымя».

**Павел АЛЬСОВЫ**

*У Выдавецкім доме «Звязда»*

# Маладыя галасы

У гасцях Выдавецкага дома «Звязда» пабывалі члены Экспертнага савета конкурсу Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі на лепшы літаратурны твор сярод моладзі. Такі прадстаўнічы візіт зусім невыпадковы. Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы ўжо не ўпершыню даручае беларускаму боку правядзенне конкурсу, падсумоўванне яго вынікаў, а пасля і выданне штогадовага альманаха з творамі пераможцаў.

Сёлета рэалізацыяй гэтага праекта займаецца Нацыянальны прэсцэнтр. Ён і правёў пасяджэнне экспертнага савета конкурсу ў Мінску. Беларусь у савеце прадстаўляюць галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» паэтэса Таццяна Сівец, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак, літаратуразнаўца, празаік, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Анатоль Андрэеў.

Падчас размовы за «круглым сталом» расійскія і беларускія ўдзельнікі экспертнага савета пазнаёміліся з серыяй «Сугучча сэрцаў», альманахам «Сугучча», абмяняліся развагамі пра стан мастацкага перакладу, пра творчасць маладых у Расіі і Беларусі. Асабліва цікавымі падаліся меркаванні пра рэсурс дзіцячай літаратуры ў захаванні прасторы чытання ўвогуле. З дакладам на гэтую тэму выступіў дацэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, галоўны рэдактар часопіса «Вестник детской литературы» Аляксандр Торапцаў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**



*Фота Яўгена Пясецкага*

*Пасяджэнне «круглага стала».*

*Фотапозірк*

# Героі натхняюць



*Пісьменнік Мікола Панасюк і двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Клімук.*

З публікацыяй фотаздымка, на якім побач з брэсцкім пісьменнікам Міколам Панасюком стаіць лётчык-касманаўт, наш легендарны зямляк Пётр Клімук, мы, магчыма, крыху спазняемся. Так, прафесійнае свята касманаўтаў ужо мінула. Але нагода ўсё роўна ёсць...

І бачыцца мне тая нагода ў звычайным на ўсе часы клопаце прапаганды лёсаў выдатных нашых суродзічаў. Мікола Панасюк як вопытны журналіст і публіцыст напісаў мастацкую, вельмі вобразную біяграфію Пятра Клімука. Мікола Гіль у свой час напісаў кнігу пра Уладзіміра Кавалёнка. Нядаўна ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніга пра Алега Навіцкага, якую напісала яго жонка. «Звязда» з нумара ў нумар друкавала артыкулы журналісткі з Чэрвеня Святланы Адамовіч пра Алега Навіцкага, калі той знаходзіўся ў космасе.

І ўсё ж, лічу, недастаткова шырока мы расказваем пра подзвіг, яркі жыццёвы прыклад земляхоў-касманаўтаў. У літаратуры — мастацкай, публіцыстычнай — няма тае з'явы, якой стала руплівасць скульптара Івана Міско ў галіне касмічнай тэмы. Чаму так? Хіба такія кнігі не патрэбны школе для выхавання ў падлеткаў любові да гераічнай, мужнай прафесіі? Вось і цяпер так просіцца ў жыццё праект кнігі пра касманаўтаў-беларусаў для маленькіх чытачоў. Мо адолее такую ідэю «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ці іншае якое выдавецтва? Ведаю, што Пётр Ільіч Клімук часты госць на сваёй малой радзіме. Ёсць у яго родных мясцінах і музей у гонар касманаўта-беларуса. Вось бы расказаць пра ўсё гэта ў дакументальнай аповесці! Ды паказаць, як ганарацца земляні Клімуком.

Пра тых, хто здзейсніў у жыцці подзвігі, нельга не расказваць на прыкладзе землякоў. І каму, як не пісьменнікам, найперш гэтым заняцца?! Мо нават не чакаючы наўмысных выдавецкіх замоў? Будзе рукапіс цікавы пра касманаўта — упэўнены, выйдзе і кніга. Не пакідаць жа гэтыя ідэі жыццяпісаў герояў-сучаснікаў наступнікам праз стагоддзе!

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Дзеці спявалі

**Імпрэза пад назвай «Клікала песня ў бой» прайшла ў Цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна. Сустрэча была прысвечана песням Вялікай Айчыннай вайны.**

Госці ўстановы — вучні сталічных школ — даведаліся пра гісторыю стварэння песень, што сталі сапраўднымі гімнамі Вялікай Айчыннай: «Свяшчэнная вайна», «Кацюша», «Сіняя хустачка», «У зямлянцы» ды іншыя. Яны дапамагалі салдатам пераадолець цяжкасці франтавога жыцця, суцяшалі ў расстанні з роднымі і каханымі.

На імпрэзу завіталі кампазітар Аляксандр Рашчынскі, загадчык тэарэтыка-харавога аддзялення Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 20 Кацярына Паўлоўская, а таксама паэт Уладзімір Мацвеенка, які падзяліўся ўспамінамі пра ваенны час, прадставіў публіцы ўласныя творы. Напрыканцы імпрэзы песні Вялікай Айчыннай прагучалі ў выкананні ўдзельніц студыі «Камертон» — Настассі Мельнікавай і Лізаветы Храпавай. Дзяўчынкам падпавяла ўся зала.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Нашчадкі змагароў

Тыдзень таму ў Белдзяржуніверсітэце быў дадзены старт цыклу мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю Вялікай Перамогі. 17 красавіка ладзілася патрыятычная акцыя «Мы — нашчадкі Перамогі!»

Грамадзянскі праект «Ліст ветэрану» — галоўнае мерапрыемства акцыі, да якога далучыліся ўсё жадаючыя, хто напісаў святочнае віншаванне ветэранам. Усе пасланні будуць адпраўлены ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны.

У межах акцыі адбудзецца таксама прэзентацыя настольнага рэтра-календара на 2015 год «Дванаццаць Герояў Савецкага Саюза», выпуск якога прымеркаваны да юбілейнай даты. Каляндар з'яўляецца своеасаблівай партрэтнай галерэяй герояў вайны — былых супрацоўнікаў і студэнтаў БДУ. З усіх выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта 12 чалавек былі ўганараваны вышэйшым званнем СССР — «Герой Савецкага Саюза». Кожнаму з гэтага легендарнага спіса прысвечаны цэлы каляндарны месяц. Фотаздымкі герояў на старонках альманаха прадстаўляюць лепшыя студэнты БДУ — пераможцы конкурсу «Студэнт года — 2014». Пад кожным фота змешчаны словы падзякі за мірнае жыццё. Мяркуецца, што каляндар стане памятным падарункам ветэранам Вялікай Айчыннай вайны.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Святло і цеплыня Уладзіміра Содаля



Пайшоў з жыцця Уладзімір Ільіч Содаль. 15 красавіка спыніўся зямны шлях чалавека, чый унёсак у развіццё літаратурнага краязнаўства ў апошнія некалькі дзесяцігоддзяў ахарактарызаваць нават цяжка. Зацікаўленні Уладзіміра Ільіча Содаля былі найперш звязаны з жыццём і творчасцю Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., тых пісьменнікаў, дзякуючы якім быў дадзены старт сучаснай беларускай літаратуры.

«Пуцявінамі сейбіта», «Кушлянскі кут», «Людзьмі звацца», «Сцежкамі Мацея Бурачка», «Жупранская старонка», «Тут бачу свой край», «Свіранскія крэскі», «Карпілаўка», «Волат з Мігаўкі» — кнігі, якія і цяпер можна смела перавыдаваць, якія вытрымалі выпрабаванне часам. Іх не знойдзеш у стосіках пажаўцелых «дакументаў папяровага часу», яны здымаюцца з бібліятэчных паліц. Выдадзеныя не такімі і малымі тыражамі, яны ў значнай ступені разышліся па хатніх бібліятэках цікаўных да беларускай культуры. Хаця, як на першы погляд, нічога незвычайнага ў гэтых кнігах няма. Так, драбнічкі, факты, сабраныя, пачутыя Уладзімірам Ільічом у розных вандроўках. А калі ўчытацца ў напісанае, нельга не заўважыць гранічную ступень шчырасці, пранізлівую, сонечную цеплыню. Чуласць і чуйнасць, адрасаваныя памяці і скіраваныя на вяртанне памяці ў наш час, — вось рысы краязнаўчай публіцыстыкі, створанай нястомным вандроўнікам па адрасах беларускай літаратуры.

Як бы ні складвалася яго жыццё, якія б грошы ні былі ў яго кішэні, ён ехаў, ішоў, шукаў, аддаваў усяго сябе літаратурна-краязнаўчай рабоце. Такая самаахвярнасць, такая руплівасць была ўласцівая хіба што нешмат апантаным гісторыкам і краязнаўцам. Згадаем хаця б некаторых: Сцяпан Александровіч, Генадзь Кісялёў, Віталь Скалабан, Генадзь Каханоўскі... Іх творчая, гісторыка-краязнаўчая і навуковая спадчына — варты ўвагі нарабак і для будучых пакаленняў. Верыцца, што кнігі Уладзіміра Содаля будуць перавыдавацца і знаходзіць новых чытачоў.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Равеснік Перамогі

Для «Нёмана» — часопіса, які ўваходзіць у склад Выдавецкага дома «Звязда», 2015 год юбілейны. Адно са старэйшых літаратурна-мастацкіх выданняў Беларусі будзе святкаваць сваё сямідзесяцігоддзе. І хаця першы нумар быў падпісаны ў друк у лістападзе, святочныя мерапрыемствы пачаліся ўжо вясною.

Першае з іх было ініцыіравана загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Пятром Васючэнкам. Супрацоўнікі «Нёмана» сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі навучальнай установы, расказалі пра выданне, адказалі на пытанні, якія цікавяць сучасную моладзь, у прыватнасці — студэнтаў-перакладчыкаў.

А на пачатку красавіка супрацоўнікі рэдакцыі наведалі Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Гасцей прывітала і прадставіла загадчыца бібліятэкі Таццяна Адамян. Рэдакцыя пазнаёміла прысутных з гісторыяй часопіса, падзялілася творчымі планамі. Павіншаваць выданне прыйшлі бібліятэкары, пісьменнікі, чые творы неаднойчы з'яўляліся на старонках «Нёмана», і чытачы. Да віншаванняў далучыўся і адзін са старэйшых пісьменнікаў Віцебшчыны, лаўрэат шматлікіх конкурсаў, ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі Барыс Беляжэнка. Віцебскі паэт Мікалай Намеснікаў, які дэбютаваў у «Нёмане» з вершамі яшчэ ў васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя, пажадаў часопісу новых тэм, праектаў. Цёплыя словы ў адрас выдання выказала таксама пісьменніца, галоўны спецыяліст Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама Святлана Дзядзінкіна. Шчырыя пажаданні часопісу-юбіляру прагучалі ад чытачоў і бібліятэчных работнікаў.

Не абмінулі ўвагай і 70-годдзе Вялікай Перамогі, равеснікам якой з'яўляецца «Нёман». Гэтай тэме ў часопісе плануецца прысвяціць шмат публікацый: ад мастацкіх твораў да сур'ёзных даследаванняў і ўспамінаў.

Натуральна, не абышлася імпрэза без вершаў і прозы, якія прагучалі з вуснаў супрацоўнікаў і аўтараў выдання.

**Аляксей ЦІМАФЕЕЎ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**26 красавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з паэтам Міколам Чарняўскім. Пачатак а 19.30.*

**27 красавіка** — *на дабрачынны вечар духоўнай песні і паэзіі. Імпрэза адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5; вялікая зала). Пачатак а 19-й гадзіне. Уваход на білетах.*

**28 красавіка** — *у Школу юнага літаратара пры МГА СПБ (вул. Фрунзэ, 5; кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на прэзентацыю кніжкі паэтэсы Аксаны Ярашонак «Звычайнае шчасце». Пачатак а 19-й гадзіне.*

**29 красавіка** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз», якое пройдзе ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**29 красавіка** — *на свята паэзіі «Ізноўку гоіць нас вясна» ў публічнай бібліятэцы № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**29 красавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчы вечар паэта, перакладчыка і публіцыста Уладзіміра Мазго. Пачатак а 16-й гадзіне.*

# Весяліліся ў Васілевічах

Прэзентацыя адразу трох кніг Васіля Ткачова адбылася ў Васілевіцкай бібліятэцы Рэчыцкага раёна. На суд чытачоў ён прадставіў кнігу аповесцей, апавяданняў, жыццёвінак і гумарэсак «Варона», зборнік апавяданняў на рускай мове «На ўсё сяло адзін мужык» і кнігу апавяданняў для дзяцей «Высокі страх». Пісьменнік адказаў на шматлікія пытанні чытачоў, падзяліўся творчымі планамі, пацешыў публіку новымі гумарыстычнымі творамі.

Сярод гледачоў было нямала і тых, хто пільна сочыць і за драматургічнымі пастаноўкамі па творах Васіля Ткачова. Распавёў пісьменнік і пра часопіс «Вожык», членам рэдкалегіі якога з'яўляецца, параіў чытачам звяртацца да гэтага выдання як мага часцей, бо сапраўдны гумар павышае жыццёвы тонус.

**Мікола ГУЛЕВІЧ**

## Мікола МЯТЛІЦКІ



***

У Бабчыне маім
Высокі, чысты снег,
Над Бабчынам маім
Агністы россып зор.
Абрала тут зіма
Бязмоўны свой начлег,
Іскрыстаю шугой
Залоцячы прастор.

Міне нямала лет,
Нямала сыдзе зім
Над памяццю жыцця
Бязгучнасцю нямой.
Жыве усе гады
У Бабчыне маім
Не выстылы ў снягах
Нясходны голас мой.

Пытаецца ў журбы:
Ты плачаш тут па кім?
І смутнае выццё
Пачуецца ў адказ:
Не тузай ты мяне!
У Бабчыне маім
Адзіны гаспадар —
Бязгучны, мёртвы час!

Ды выблісне зара
Дыханнем агнявым,
І яснатой нябёс
Пагляне белы дзень, —
І спудліва ў цішы
У Бабчыне маім
Асядзе ў бель снягоў
Нясходнай смерці цень.

***

Там вёска мёртвая мая
Змарнела ўся на санцапёку.
Ў яе атручаных гаях,
Ў яе палях, садах — ні кроку.

Крывяным прыхапкам зары
Узыдзе раніца нямая —
На затравелыя двары,
Далей падацца сіл не мае.

Як рызнік, што збірае тхло,
Зяхае зморана-санліва.
Былое кожнае жытло
Акіне позіркам журліва.

Ды не зачэпіць хлам стары —
Далей пуцінай свету рушыць
Па затравелым пустыры —
Па сэрцы нашы, нашы душы.

***

Як прытамілася душа
Чакаць жыцця жывога крокі!
У лес, бы ў храм, ступлю спярша, —
Сустрэнуць лямантам сарокі.

Хацін ланцуг. Напружу слых:
Ні галасочка-адгалоска.
У днях нязрушлівых былых
Жывой пакінутая вёска.

А гэта? — стоены міраж —
Як смерць сама перад вачамі.
І бледны месяц, вечны страж,
Абходзіць вуліцы начамі.

— Я часу стратнага ўладар! —
Гукне мірготным дробным зоркам.
Яны — жыцця астатні жар —
Над кожным блісНуць панадворкам.

***

У снах маіх — шуганне летняй спёкі,
І рыжай выспы крутабокі схіл,
І свет жыцця, яшчэ такі далёкі
Ад наступу трагедый і магіл.

Кароў пасу, сушу на клетках сена,
Бяру ў бары сырым баравікі.
Нязрушны Час — уладна і нятленна —
Стаіць пабліз, убраўшыся ў вякі.

Яшчэ няма ні кропліны пагрозы,
Жыве сяло раскатам гаманы.
І спорны дождж праліў
з паднеб'я слёзы, —
Прыйшоў сюды не з чорнай
старонкі.

Сябры мае, прымоўкла сеўшы ў класе,
Глядзяць з тугой хлапечай на дзяўчат.
Я зноўку з імі там, у нашым часе,
І гэты час — дарадца, а не кат.

Упраўна тчэ свае жывыя кросны,
Рыпіць, нібы над студняю асвер.
Які ён непаўторны і дзівосны! —
Дакладна тое ведаю цяпер.

***

У гаях тваіх бялёсых
(Колькі вёснаў светлых помню)
Надакучліва, як восы,
Дзень у дзень шчыруюць промні.

Ім заманліва ляціцца,
Абмінаючы аблокі.
Мне б далі яны напіцца
Дачарнобыльскага соку.

У гаях маіх — атрута
Камлюкі бяроз прашыла.
Сэрца сцісне зноў пакута:
Чым радзіма саграшыла

На шляху жыцця адвечным,
Павярнуўшы долю крута,
Што над лёсам чалавечым
Густа капае атрута?

***

Росныя сцежкі маленства майго
Пазараслі палыном і асотам.
Быццам струною, памяць яго
Дзынкне над зонай
Заржаўленым дротам.

## Змітрок МАРОЗАЎ



***

Прыціхлі ўладныя фанфары.
На пераломе час і век.
Зямныя слухаюць радары
Твой пульс, разумны чалавек.
Ды не патух вайны агніска.
І я трывожуся часцей:
Ці зберажом Зямлю-калыску,
Людзей — ад жорсткасці
людзей?..

***

Рыфмую «радыяцыя» і «нацыя»,
Хаця бяда, здаецца, адышла...
Зноў пад акном цнатлівая акацыя
Шалёным пустацветам зацвіла.
Не вабяць пчол суквецці меданосныя,
Хаця мінула столькі зім і лет...
Хвароба точыць вены крывяносныя,
Няўжо і нас чакае
пустацвет?

***

Пра камету баілі ў той год.
Свой прагноз сіноптыкі складалі
На ўраджай... Старыя ж недарод
Мне суладным хорам абяцалі.
Чорнай быллю грымнуў землятрус,
Свет бяду ніколі не забудзе...
Радыеактыўны беларус,
Што з тваімі праўнукамі будзе?

## Міхась ПАЗНЯКОЎ



### Роднаму лесу

Мой лес радыяцыйны,
Мой сябра дарагі,
Не боязна прыйсці мне
Зноў да тваёй тугі,

Прыпасці да яліны,
Нырнуць у верасы,
Застыць каля рабіны
Зіхоткае красы,

Набраць грыбоў вядзерца
Ля сосен і бяроз, —
Бо я душой і сэрцам
Твой падзяляю лёс...

### Туга

У спусцелую вёску, дзе рос,
Я прыехаў з далёкай сталіцы
І прыйшоў да самотных бяроз
Дарагім землякам пакланіцца.

Мама, цесна ў магілцы тваёй?..
Не абняць цябе больш мне ніколі...
Тата, плача каса пад страхой,
Жвір цябе не адпусціць да волі...

Дзед Кузьма! Дзед Іван! Дзед Пятрок!
Дзядзькі Міша, Сяргей і Мікола!
Ах, які па-над краем дзянёк! —
Не пакошаны травы наўкола...

Бабкі Ганна, Праскоўя! — са мной
Вашы цёплыя, добрыя ўсмешкі.
Цёткі Маня, Надзея! — травой
Зараслі вашы грады і сцежкі...

Вы даруйце, мае землякі,
Што здзічэлі сады залатыя,
Што праз хаты лятуць напрасткі
І вятры, і дажджы шапаткія.

Што чарнобыль нябачным лязом
Тут жахліва прайшоўся знянацку,
Што заснуў мілы кут горкім сном,
Не сустрэне ніхто па-зямляцку...

Адыду ад балючых грудкоў,
Буду сноўдацца вёскай пустою...
І яна, як магілкі, ізноў
Ахіне невымоўнай тугою...

### Куток маленства

Заброддзе, Глухі і Усходняе.
Дарогі і блакіт нябёс —
Усё знаёмае, і роднае,
І незабыўнае — да слёз.

Нішто так сэрца не кранае,
Як гэты край найдарагі.
Іду — вось ніва залатая,
Вось першыя духмень-стагі.

Вось па-над плотам спеюць вішні,
Гарыць сланечнік на градзе,
Вось васількі на ўзмежак выйшлі...
Пагрозы, быццам, — анідзе.

Куток маленства! Мне сягоння
Тваёй не вырачы бяды.
Пра стронцый жаласна гамоняць
Навокал неба і сады...

### Дваццаць першаму веку

Ах, зямляне, ліхія зямляне,
Што ж ускінулі меч над сабой?
На суніцы, на кветцы жаданай
Несусветны чарнобыльскі боль.

Ратавала краса ўсіх спрадвеку.
Дабрыня, не заплюшчвай павек.
Чалавека адкрый чалавеку,
Дваццаць першы камп'ютарны век.

Як малому, табе сёння веру,
Што ўсміхаецца радасна ўсім,
Перапоўнены сонцам дaверу,
Не засмучаны покуль нічым.



Фота Кастуся Дробава

Раіса ДЗЕЙКУН

# Пра Бульбу і Бульбіна, або Бульба ёсць!



У той год бульба расла-буяла як ніколі — бульбяныя латкі бялелі, жаўцелі, фіялецілі: колер залежаў ад гатунку. Яе ж многія на прысядзібных дзялянках і «сваіх латках» да Чарнобыльскай аварыі паспелі ўкінуць у зямлю.

Падчас эвакуацыі людзі паехалі, а бульба засталася.

«Штосьці ліхое сталася, калі ўжо чалавек пра мяне забыў», — разважала бульба, чакаючы на людзей праз усё лета.

А яны не прыходзілі. Яна спадзявалася, што з'явяцца восенню. І дарма, што яе не дагледзелі: ніхто не палоў, не акучваў, не капаў яе, маладую, а потым даспелую — яна ўсё роўна ўзрадуе людзей ураджаем, напоўніць хаты пахам-парам, накорміць і іх, і худобу.

Яна зноў чакала. Але замест людзей-капачоў да сяла прыйшла-прыгрукацела жалезная тэхніка. Вялізныя бульдозеры, дзе апусціўшы свае груфастыя кашы-забралы, а дзе падняўшы іх угору, пачалі ламацьтрушчыць хаты, хлявы, лазні. За імі трактары з навяснымі каўшамі — ссоўваць паняверчаныя будынкі і прыбудовы ў вялізныя катлаваны-магільнікі.

Потым дайшла чарга да агародаў і да яе, бульбы. Няполатай і неакучанай. Не абмінула і яе суседзяў: буракоў, морквы, капусты, цыбулі з часнаком, рознай іншай гародніны. Заглыбіўшы шырокія навясныя каўшы-рылы ў зямлю, трактары пачалі спіхваць імі зямлю разам з калівам бульбы і яшчэ шмат чаго ў глыбачэзныя ямы-магілы.

Такога страхоцця бульба не бачыла яшчэ ніколі. Нават у апошнюю вайну. Наадварот, яе — мерзлую, гнілую, самую нявартую, людзі шукалі на палях, а калі знаходзілі, дык радаваліся, бы самай цудоўнай знаходцы. Як ваду з Буга пад знішчальным агнём фашыстаў, так пад страхам смерці людзі шукалі і капалі яе. І ў сорак першым бульбу паспелі пасадзіць усю, і яна не давала памерці ад голаду. А тут?!.

Адзін з трактароў-магільшчыкаў праходзіў па агародзе апошні круг. Вось ён прыхапіў новую порцыю зямлі разам з некалькімі радамі бульбы і пасунуў усё гэта да бліжэйшай ямы. Мусіць, чалавек, які сядзеў за рычагамі жалезнага страшыдлы, быў заняты невясёлымі думкамі пра тое, што вымушаны быў рабіць. І не прыкмеціў, як з крайняй баразны выкацілася цэлая бульбяная сямейка: маці Бульба, бацька Бульбін і іх дзеці — малыя і большыя бульбянняткі.

Бульба-маці агледзела сваю сямейку — усе цэлыя, не пашкоджаныя. Узнесла хвалу бульбянаму богу Анчутку: мусіць жа ён збярог яе сямейку!

— За мной! — скамандавала. Падхапіўшы ў падол самых маленькіх бульбінак-дочак і бульбянёчкаў-сыночкаў, яна першая скацілася ў разору. За ёй паспяшаўся муж Бульбін, які прыхапіў большых дзяцей у падол сваёй кашулі. Дабегшы да краю агарода, за якім пачынаўся лес, Бульба і Бульбін спыніліся, агледзеліся. Тэхніка грукацела ўдалечыні.

— Што будзем рабіць, стары? — апусціўшы на шаўковую веснавую траву маленькіх дзетак, спытала Бульба-маці свайго Бульбіна. Усе дзецібульбачкі збіліся ў гурт, бліжэй да бацькоў.

— А што тут зробіш, патрэбна дзесьці схавацца на зіму, каб неяк перазімаваць, а там прыйдзе новая вясна, і пачнём новае жыццё! — трохі адхекаўшыся ад хуткай хадзьбы-качэння, сумна, але ўпэўнена адказаў Бульбін-бацька. Так і вырашылі. Адпачыўшы, ён пайшоў-пакаціўся ў адзін бок, маці Бульба — у другі. Дзецям яны наказалі ціхенька ляжаць і нават не дыхаць, каб іх не заўважыў хто з ляснах насельнікаў. Дзеткі былі паслухмяныя: стаіліся і сталі чакаць бацькоў. Тыя доўга не затрымаліся. Бульбін знайшоў непадалёку даволі глыбокую ямку пад карчом-вываратнем, Бульба таксама знайшла, але не такую пахватную, пагадзілася ўладкавацца ў ямцы пад карчом. Сабраўшы дзяцей, бацькі скіраваліся да вываратня. Маці Бульба перад самым уваходам да іх будучага сховішча-нары паклала каменьчык, той, што падхапіла па дарозе да схованкі, са словамі:

— Вось тут будуць нашы дзверы на выхад вясной, а мышкам — забарона нас пагрызці. Зубкі паламаюць, перш чым да нас дабяруцца.

Сабраўшы дзяцей на самым дне ямкі, бацькі накрылі яе мохам і рознымі сухімі галінкамі, потым і самі коўзнулі ўсярэдзіну. Бульбін закрыў за сабой адтуліну і разам са старэйшымі сынамі страсянуў адну з лап вываратня. З яе пасыпаўся пясок і накрыў зверху мох ды галінкі. Атрымаўся гэткі капец-хованка. Цяпер ніхто і нізавошта не здагадаўся б, што пад карчом-вываратнем хтосьці ёсць. Пасля гэтага бульбяная сямейка зацiхла-затаілася і паснула ажно да самай вясны, як спяць мядзведзі, расліны і дрэвы.

І вось надышла вясна. Пачаў раставаць снег, пацяклі ручайкі. Яны прабілі-пpаторылі сцяжынкі зверху пня-вываратня, размылі з бакоў пясок, і ў бульбяную схованку зазірнула ласкавае веснавое Сонейка. Агледзеўшы пад пнём незвычайную для гэтых мясцін сямейку, Сонейка кожны ранак казытала-будзіла яе сваімі праменямі.

— Гэй вы, соні! Прачынайцеся, я ўжо высока, — смяялася Сонейка. І дамаглося свайго — яны прачнуліся і пачалі прадзіраць вочкі. Першым прахапіўся бацька Бульбін:

— Слухай, жонка, вясна прыйшла, а мы яе ледзь не праспалі. Дзякуй табе, Сонейка, што разбудзіла нас! Дзеткі, жонка, падзякуйце Сонейку за цяпло і ласку, ды давайце выбірацца з нашай дамоўкі. Трэба штосьці рабіць, годзе ўжо спаць.

Бульбяная сямейка выбралася са сваёй схованкі і агледзелася. Вакол стаяла цішыня: ні грукату тэхнікі, ні ляманту людзей.

— Куды ж мы цяпер? — запыталі хорам дзеці.

— Дамоў, на свой агарод! — рашуча адказаў бацька Бульбін, пагладзеўшы на жонку Бульбу. Тая кіўнула. — Пасадзімся там, дзе садзіліся нашы дзяды і бацькі і куды будуць вяртацца людзі!

Выбраўшыся з ямкі-капца пад вываратнем, бульбяная сямейка накіравалася на свой былы агарод. Бацькі дапамаглі бульбянятам роўненька, у шнурочак, палегчы ў больш рыхлую глебу на агародзе, ёю ж прыкрылі іх зверху, а потым і самі пахаваліся па баках.

Веснавыя, а потым цёплыя летнія дажджы шчодра палівалі-палілі сямейку вадой, а Сонейка сагравала з усіх бакоў. Хутка на тым месцы, дзе засталася сямейка, з'явіліся першыя парасткі, якія з кожным днём станавіліся мацнейшымі і вышэйшымі.

— Расці, бульбяная сямейка, вялікая, расная, дружная! А як зацвіцеш — сюды вернуцца людзі, я прывяду іх да цябе, не сумнявайся! — так казала Сонейка Бульбе, Бульбіну і іх дзеткам кожны ранак.

***

І людзі вярнуліся. А тут — цвіце-буяе, як ні ў чым не бывала, бульба!

— У нас жа бульба ёсць! Бульба ёсць! Бульба ёсць! — закрычалі на ўвесь голас.

Радасці было — не перадаць!

# Гэй, ты, бульбачка мая!

## *«Шмэндрыкі і кацапендрыкі»*

Цягнік адышоў ад станцыі і пачаў набіраць хуткасць. У адным купэ плацкартнага вагона размясцілася маладая пара, па усім відаць — нарачоныя, а насупраць іх — старэнькая бабуля. Праваднік праверыў білеты, завярнуў у суседні адсек. У цягніку, пад мерны перастук колаў, добра не толькі спіцца, а і есца. Хлопец хуценька дастаў поліэтыленавы пакет і выняў бутэльку «Кока-колы», пластмасавыя стаканчыкі, а дзяўчына выцягнула з іншага пакета цэлафанавы пакуначак. Працягнуўшы да яго ці не аднparticip рукі, маладзяты ўзялі па вялікім беляшы (няйначай на вакзале прыдбалі).

У гэты самы час бабуля дастала з-пад століка лазовы кошык, а з яго — торбачку-саматканку. На край століка, за якім сядзела, засцяліла чыстую палатняную сурвэтку. Побач з запалкавым пачкам, яўна з соллю, паклала вараныя яйкі, за імі — памідоры, скібачкі хлеба са скрылікамі апетытнага сала. На гэтым яе прыгатаванні не закончыліся: у зрэбнай анучцы з шэрага, але чыстага палатна на стол ляга бульба «ў мундзірах». Відаць, зварыла яе бабуля перад самай паездкай, бо пах пайшоў на ўсё купэ. Маладая пара, якая ўжо паспела пакаштаваць пакупных прысмакаў, сядзела насупраць старэнькай жанчыны і не зводзіла вачэй з яе апетытна-прываблівага стала.

— Ну, што, дзеткі, давайце знаёміцца: Сцепаніда, а вы як завецеся? Аня і Ваня? Добрыя імечкі — цёпленькія! Відаць, пабраліся толькі? Дай вам Бог здароўя, дзеткі! Дык сядайце бліжэй да майго харчу, падсілкуемся. Кіньце вы свае рызінавыя кацапендрыкі і тое пойла. Давайце вось паямо мундзіроў з хлебам-сальцам ды з памідоркамі, а потым закусім маімі шмэндрыкамі, запʼём іх малачком-кіслячком. Не саромцеся, дзеткі, памажыце ачысціць столік і маю лозанку. Дачка напакавала, нібы я на Поўнач еду, а я ж — да царквы, да святой іконы: памаліцца за дзяцей, унукаў... Свечачку паставіць чалавеку свайму, што з вайны не вярнуўся. Калі шчэ выбярусь — Бог-бацька ведае...

Аню з Ванем другі раз Сцепанідзе запрашаць не давялося: схаваўшы «рызінавыя кацапендрыкі» і адставіўшы «пойла», яны хутка дапамаглі бабцы «ачысціць» столік. Тая, пакорпаўшыся ў сваёй лозанцы, выняла з яе новую палатняную торбачку, развязала. З яе выглядвалі апетытныя дамашнія коржыкі — «шмэндрыкі».

— А з чым яны? — у адзін голас запыталі маладыя.

— З бульбай, дзеткі, з камой-тоўчанкай, запраўленай смажаным сальцам з цыбулькай і кропчыкам! Бачыце, якія пульхлыя? Мы на іх кажам — бухоныя. Гэта таму, што яны на малацэ. Сваё маем, дачка кароўку трымае. Я свае шмэндрыкі і без зубоў з'ем, а ў пакупных — астатнія пакіну. Ведама ж — рызінавыя.

## *Змаганне з каларадам*

Марыя ў першую вясну пасля набыцця лецішча пасадзіла даволі вялікую граду бульбы і забыла пра існаванне паласатага бульбаеда з-за клопатаў з вяртаннем на сталае жытло ў родную Беларусь. Прыехаўшы пры першай магчымасці на дачу, яна зірнула на бульбяную градку, рыхтуючыся прапалоць.

Бедная бульба: замест зялёных кустоў голыя сцяблiны і павіслыя на іх гронкамі тлустыя паласатыя пачвары. Марыя на каларадаў у дзяцінстве нагледзелася і назбіралася... Шалёны напад бульбаеда не прайшоў дарэмна: бульбы восенню было кот наплакаў...

Да чарговага сезона новаспечаная дачніца падрыхтавалася грунтоўна. За паўтара месяца да пасадкі выклала клубні-насенне гатунку «скарб» для прарошчвання. Пры канцы мая, калі паласацік пачаў масава з'яўляцца з зямлі і з боку суседскіх агародаў, гаспадыня была гатова адбіць нашэсце непрыяцеля. Бульба да гэтага часу набрала вышыню, стаяла моцна і мела шыкоўнае ярка-зялёнае лісце. А жук пасля зімоўкі вялы, слабы.

Такога яго, галубка, чакалі раскіданыя па старой дзялянцы лушпайкі бульбы, дробныя і падгнілыя клубні ды на трэць заглыбленыя ў зямлю шкляныя слоікі розных памераў, нацёртыя ўсярэдзіне і па краях бульбяным сокам. На дне слоікаў ляжала і па некалькі зялёных свежых бульбяных лісткоў.

Схуднелы кларад папоўз на прыманкі...

Восенню Марыя капала сваю бульбу, буйную, гладкую, смачную!

Драматургія



Вікторыя БЕЛЯКОВА

# Абаяльнасць звычайнасці

**П'еса «Лондан» Максіма Дасько — яркі прыклад так званага тэксту для тэатра. У сучасным тэатральным мастацтве сціраюцца жанравыя і відавыя межы, і драматургія, як яго частка, не адстае ад гэтай тэндэнцыі.**

Тэкст «Лондан» складаецца з фотаздымкаў і мультымедыяфайлаў, якія з'яўляюцца паўнавартаснай часткай твора, а замест класічных дыялогаў нам прапануецца аповед галоўнага героя. Фармат тэксту вызначаецца на супастаўленні розных відаў мастацтва: фатаграфіі, музыкі і літаратуры.

Аўтар разглядае жыццё звычайнага беларускага сантэхніка, апісваючы рэальнасць героя з дакладнасцю і карпатлівасцю даследчыка. Максім Дасько прадстаўляе незвычайную гісторыю звычайнага чалавека Гены. Галоўны герой едзе ў Лондан на фестываль саломапляцення, дзе яго праца перамагае ў міжнародным конкурсе. Падарожжа — моцнае эмацыянальнае перажыванне, бо ўсё падаецца чужым ды іншым. Праўда, большая частка тэксту прысвечана паўсядзеннаму існаванню Гены ў Мінску ў межах асабістага маршруту дом — праца — дом. Праз кантрасны псіхічны стан галоўнага героя, існуючага ў тэксце ў двух прасторах, нечакана выяўляецца такое пачуццё, як патрыятызм.

Патрыятызм — гэта тое, што Гена, як яму здалося, адчуў падчас свайго вандравання ў Лондан. Праз прастату і шчырасць манеры тэксту аўтар разам з героем прапануе менавіта такое вызначэнне эмоцый героя. Але гэта толькі спрошчаная мадэль успрыняцця. Пры больш уважлівым разглядзе робіцца відавочным, што аўтар распавядае пра тыповую для беларуса цяжкасць выхаду з асабістай зоны камфорту. Паводзіны Гены тлумачацца немагчымасцю прыняцця іншага асяроддзя і магутным страхам перад невядомым. Герой жа асэнсоўвае гэтыя пачуцці як любоў да радзімы.

Тым не менш з'яўляецца спачуванне і разуменне героя. П'еса «Лондан», як і іншыя тэксты Максіма Дасько, прываблівае шчырай фіксацыяй эмоцый, адсутнасцю шматступеньчатых самарэфлексій. Абаяльныя, па-свойму забаўныя героі п'ес, здаецца, плывуць па хвалях рэалій.

Вось і Гена — персанаж, цікавы найперш сваёй пазнавальнасцю. Менавіта такі герой раскрывае праблему звычайнага чалавека, нашага сучасніка.

# Евангелле, косці і лабірынт

**Чалавек заходзіць у дом і па вынутай з вакна шыбіне адразу разумее, што ў жытле быў злодзей. Аглядаецца. Нібыта ўсё на месцы. Абыходзіць пакоі, правярае паліцы, закуткі. Лекі, ручнік, насенная бульба розных гатункаў — усё, чаго не далічыўся гаспадар. Чалавек уздыхае: гэткі крадзеж можна і даравацъ.**

Цяжка паверыць, што з гэтага здарэння можна зрабіць аповесць на сто дваццаць старонак. Але чытача сучаснай літаратуры падобным эксперыментам не здзівіш. Здзіўляе хутчэй абсалютная арганічнасць такога твора для беларускай літаратуры. Што можа быць больш канцэптуальным, чым вяртанне селяніна з «гарадской зімоўкі» ў старую хату? Дзеля чытачоў «Час збіраць косці» Віктара Казько можна было б крыху скараціць, але з пункту гледжання вечнасці гэта, напэўна, сталася б сапраўдным злачынствам...

Можна паспрачацца, што сярод шматлікіх кніг, прачытаных пісьменнікам за доўгае і плённае жыццё, дакладна ёсць «Лабірынт» Алена Роб-Грые. Строга кажучы, аповесць беларускага аўтара і раман вядомага французскага пісьменніка адрозніваюцца паміж сабой усім, акрамя выключнай увагі да рэчаў і адчування безвыходнасці, якое вельмі хутка прыціскае і чытача. Калі ў Роб-Грые рэчы збыткоўныя, аднастайныя, дэталёва апісаныя і найчасцей пазбаўленыя значэння, то ў Казько кожная рэч — гэта сімвал, нагода для роздумаў альбо ўспамінаў.

Кінутая на лаву стракатая хустка — памяць пра маці, якая «загінула ў вайну, хутаючыся ў гэты плат». На вешалцы — кажушок, які даваўся набыць у цешчы за немалыя грошы («Ён шкадаваў цешчу. Як, дарэчы, усё жыццё, пачынаючы з дзяцінства, шкадаваў тых, якія падманвалі ці прагнулі падмануць яго, прымаючы за нешта блазнаватае і недапечанае»). Галоўная ў хаце — печ, з якой гаспадар тройчы выцягнуў рэшткі абгарэлых соваў. Вяскоўцы некалькі разоў спрабавалі знесці стары тэлевізар, але ён чарговым разам сустракае гаспадара і робіцца добрай нагодай, каб крытычна паразважаць пра сучаснасць. Традыцыйны вясковы інтэр'ер парушаюць дзве кітчавыя карціны і румпелі-штурвалы, якія сведчаць пра мару героя быць мараком. Румпелі прывезены з горада, падабраны каля сметніцы.

Герой прысвячае доўгія расповеды не толькі рэчам, але і мышам, зайцам, розным птушкам, якія таксама робяцца сімвалічнымі. Рэдкія сустрэчы з людзьмі — альбо вяртанне ў асабістыя ўспаміны, альбо рэзкае сутыкненне з непрывабнай рэчаіснасцю. Герой прыязджае на вёску ў Даравальную нядзелю, і недалёка ад яго хаты ладзяцца праводзіны зімы: «набрыдзь, што прывалаклася і прыліпла да вёскі падчас яе хаўтураў, прыбрала да сваіх рук рэшткі хатаў, раку і зямлю, арганізавала так званы Вёска Тур. Вясковы сельскі турызм». З мясцовых жыхароў на вёсцы — два чалавекі...

Як у «Лабірынце», так і ў новых творах Віктара Казько, зноў і зноў адбываюцца падзеі, якія абсалютна не складваюцца ў сюжэт, традыцыйны для мастацкай прозы. Тут шмат паўтораў, узнаўленняў раней сказанага. Але калі ў творах Роб-Грые мы сутыкаемся з безасабовым, эмацыянальна нейтральным аповедам, дзе свет рэчаў цікавы ў кінематаграфічным, візуальным плане, то ў новых аповесцях Казько асабістага часам зашмат. Гэта той выпадак, калі апавядальнік адначасова з'яўляецца галоўным героем твора — і неабмежавана карыстаецца магчымасцю выказацца, бо аўтар чамусьці разводзіць рукамі і адыходзіць у бок. Расповед пра паслядоўныя падзеі зноў і зноў перапыняецца роздумамі і ўспамінамі, якія атрымліваюцца больш значнымі за сюжэт. Зрэшты, з падзеямі ніколі не зразумела, ці адбываліся яны насамрэч. Напрыклад, у аповесці «І нікога, хто ўбачыць мой страх» герой размаўляе з трэцякласніцай, якая марыць стаць валютнай прастытуткай, але хутка пачынае «сумнявацца, ці на самай справе была тая сустрэча




з ёй, ці гэта ён прыдумаў яе, сасніў». Для героя сон быў зусім не прыемны, а жахлівы, адпаведны страшнай яве навокал.

Рэчаіснасць героя непрывабная, нават не шэрая, а густа-чорная, і на яе фоне часам праступаюць светлыя абрысы персанажаў і родных вясковых мясцін. У гістарычным плане аўтар дэманструе «вельмі старую, вечную драму ў новым прачытанні і з новымі варыяцыямі», якая адбываецца «на прасцягах некалі адзінай, вялікай і магутнай краіны». Сацыяльны вопыт пакалення пакідае людзей зняможанымі, назаўсёды расчараванымі ў сабе.

> *Грамадства, чалавек, дрэвы, жывыя стварэнні — усё гэта ў аднолькавай ступені значнае як прадмет мастацкага выяўлення, бо кожны вясковец адчувае сябе не толькі прадстаўніком чалавецтва, але і часцінкай прыроды. У агульных рысах герой «Прахожага» і «Часу...» — тыповы сучасны селянін, які скептычна ставіцца да многіх рэчаў, любіць іранізаваць з жыцця і самога сябе.*

— Усё п'яце. Хопіць, дапіліся. Дзеці гінуць... — папярэджвае настаўніца мужчынскую кампанію, якая пасля працы збіраецца за чаркай. Трое мужчын «пры ўсёй іх заможнасці, дабрабыце — трухлякі без стрыжня, без галоўнага — жадання жыць».

У кнізе «Час збіраць косці» можна знайсці нямала добрых цытат, якія прымушаюць задумацца. Але справу часам псуе апавядальнік: напрыклад, збіваецца на незадаволенае буркатанне і абураецца на «напаўдэбільнага тэлепузікавага нашчадка» альбо ўздыхае, што «цяпер адны толькі дзеўкі і раджаюць, школьніцы. Жонкі спрактыкаваныя пайшлі...». Такія выказванні прыкметна змяншаюць колькасць патэнцыяльных чытачоў. Апавядальнік Віктара Казько непрыхільна ставіцца да моладзі, і такая пазіцыя падаецца некарэктнай і нелагічнай.

Адмоўнае стаўленне да пэўнай сацыяльнай групы (мужчын, жанчын, мяшчан, заможных людзей), якое часта падкрэсліваецца ў тэксце, выяўляе «непажаданага» чытача, які дакладна не зразумее пісьменніка. Так, у кнізе Віктара Казько чалавек, які паводле ўзросту не можа атаясаміць сябе з героем-пенсіянерам, аўтаматычна трапляе ў катэгорыю «тэлепузікавай моладзі». Зняважлівае абыходжанне маладога аўтара з персанажамі старэйшага пакалення заўсёды выклікае вострую рэакцыю, але адваротная сітуацыя чамусьці лічыцца прымальнай. Вядома, пры дастаткова вузкай чытацкай аўдыторыі пісьменніку варта быць больш абачлівым, але асабістая непрыхільнасць — справа прынцыповая...

Яшчэ адна праблема апавядальніка — схільнасць да вульгарызмаў, спрашчэнне, «зніжэнне» відавочна сур'ёзных праблем: «А мы адштурхоўваем унізе адзін аднаго, разбіваем ілбы, каб першымі ўхапіць, апярэдзіць суседа. І ад таго пуста не толькі ў галаве, але і ў нашым жываце, адна толькі разладжанасць арганізму, прасцей кажучы, лёгкасрай». Пасля пасажаў з непрыемным брыдкаслоўем апавядальнік зноў робіцца разважлівым, чулым, рамантычным, пачынае прыгожа і ўзнёсла апісваць сваю зямлю. Грамадства, чалавек, дрэвы, жывыя стварэнні — усё гэта ў аднолькавай ступені значнае як прадмет мастацкага выяўлення, бо кожны вясковец адчувае сябе не толькі прадстаўніком чалавецтва, але і часцінкай прыроды. У агульных рысах герой «Прахожага» і «Часу...» — гэта тыповы сучасны селянін, які скептычна ставіцца да многіх рэчаў, любіць іранізаваць з жыцця і самога сябе.

Настрой апавядальніка часта змяняецца, таму інтанацыя твораў рэзка скача. «Прахожы» наогул застаецца без жанравага азначэння: гісторыя пачынаецца як прыгоды мышаняці Пік, а завяршаецца апакаліпсісам. Успаміны дзяцінства перапыняюцца пацвельваннем з сучаснасці, падчас будоўлі новай хаты адбываецца сустрэча з каметай, дзе герой бачыць і свайго двайніка...

У параўнанні з «Прахожым» аповесць «Час збіраць косці» — твор больш ураўнаважаны і глыбокі. Да аповесці, як і да многіх твораў нашай літаратуры, можна паставіць эпіграфам некалькі біблейскіх цытат, якія будуць выдатным увасабленнем галоўнай ідэі. «Але вы любеце ворагаў вашых, і рабеце дабро, і пазычайце, ня жадучы нічога; і будзе вам нагарода вялікая, і будзеце сынамі Усявышняга, бо ён добры і да няўдзячных і злосных» (Лук: 6:35).

Невыпадкова вяртанне старога селяніна на вёску адбываецца ў Даравальную нядзелю: ён даруе крадзеж чалавеку, пра якога паспеў нядобра падумаць. Узнагародай робіцца блукаючая крынічка — дакладней, толькі ўспамін пра яе, срэбную і светлую, якая цэлае лета паблісквала ў розных месцах. І вясна — нагода, каб спадзявацца на новыя «вясёлыя крынічныя гулі».

> *Рэчаіснасць героя непрывабная, нават не шэрая, а густа-чорная, і на яе фоне часам праступаюць светлыя абрысы персанажаў і родных вясковых мясцін. У гістарычным плане аўтар дэманструе «вельмі старую, вечную драму ў новым прачытанні і з новымі варыяцыямі», якая адбываецца «на прасцягах некалі адзінай, вялікай і магутнай краіны».*

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Увага! Дзверы адчыняюцца...

**І дзверы гэтыя — у паралельны свет, які незаўважна для нас існуе штодзень, існуе зусім побач, толькі апусціце позірк да ўзроўню дзіцячых вачэй. Іншым шанцуе: яны існуюць у двух светах адначасова, спалучаючы дарослую дзелавітасць і здольнасць бачыць вялікі, поўны цудаў свет. Да такіх шчаслівчыкаў належаць дзіцячыя пісьменнікі.**

## ХУТКАЯ ДАПАМОГА

Я ніколі не быў у псіхолага. Але з замежных фільмаў стварыў сабе такую карцінку: зачыненыя дзверы з меднай шыльдай, скураная канапа і стол, закіданы часопісамі, каб знерваваны пацыент мог забіць час.

На гэты ўяўны стол я кладу тоненькую кніжку **Алены Мальчэўскай «Ша-ша з левага чаравіка»**. Бачу, як пацыент цягне да яе дрыжачыя рукі, разгортвае, чытае, і калі доктар пазірае з дзвярэй: «Калі ласка, праходзьце», пацыент усміхаецца ў адказ: «Дзякуй, мне ўжо не трэба». Пацыент ідзе дадому, сядае на буфет і шчаслівы боўтае нагамі.

Ёсць казкі, у якіх свет дарослых перакладаецца на дзіцячую мову: дадаюцца магічныя аздобы, адбываюцца цудоўныя метамарфозы, а ўзнагароды і пакаранні набываюць маштабы самыя ўнушальныя. Дзеці ўсё гэта ўспрымаюць літаральна, у той час як дарослыя бачаць рэалістычную аснову твора.

У гэтым сэнсе «Ша-ша з левага чаравіка» Алены Мальчэўскай — казка наадварот: не жыццё ператвараецца ў казку, а казка ўводзіцца ў жыццё, робіцца не проста адным з яго складнікаў, але неад'емнай яго часткай.

Ужо з першай старонкі кнігі, з казкі «Вера і шытыя сланы», можна вызначыць дзве асноўныя рысы твораў Алены Мальчэўскай: шматзначнасць, якая не кідаецца ў вочы, не выглядае як імкненне аўтара выказаць сваю дасціпнасць, і лагодны, крышачку сумны тон, які быццам выказвае шкадаванне аўтара пра наш свет: што ён не такі цудоўны, якім мог бы быць, што людзі ў ім чамусьці не вельмі шчаслівыя, што многія ў гэтым вінаватыя самі.

Вера (якое светлае імя) трымае дома чатырох сланоў, праўда, шытых. Кожны слон мае сваю гісторыю і кожны з іх у свой час змяніў самую Веру. Так, слон, які спіць, выпадкова навучыў сваю гаспадыню захоўваць таямніцы, дакладней, дзякуючы яму Вера зразумела: «На свеце ёсць таямніцы, якія павінны заставацца таямніцамі. І калі слон спіць, не трэба старацца зазірнуць яму ў вочы». Прытрымлівайся мы простага правіла не гвалціць Сусвет, жыццё стала б прыўкрасным.

З гісторыі пра значнасць таямніц вырастае іншая — пра слана Лёніка. Сваё імя ён атрымаў у гонар дзіцячага стаматолага, які нечакана выявіў страх перад мышамі. «Слон, пра якога не ведае Лёнік» перахоплівае ідэю сусветнай упарадкаванасці ды непазбежнасці непазбежнага — у лёгкай, гумарыстычнай форме. Пад гумарам я маю на ўвазе не анекдатычныя сітуацыі, а добрую, цёплую ўсмешку аўтара, якая адчуваецца ў кожным слове. Так, адзін з фрагментаў нагадвае славутую псіхалагічную байку пра дамкрат: адна дзяўчынка перад паходам да стаматолага вырашыла, што калі будзе балюча, яна ўкусіць доктара за палец. Лёнік выканаў працу віртуозна, але дзяўчынка ўсё адно яго ўкусіла: ці ж дарма яна ішла на такія пакуты? Ці дарма так старанна настройвала сябе на горшае?

«Слон, які вандруе і танцуе» — надзвычай карысная казка, якая апісвае такую страшную рэч, як выхад з зоны камфорту. Вера ніколі не займалася танцамі і ўвогуле меркавала, што танцуе, як слон. Вядома, яна памылялася.

А чацвёрты слон Веры жыве ўнутры яе. Гэта голас, які не дазваляе ёй разгубіцца і дае парады. Кожны мусіць завесці такога слана — рашучага, упэўненага, самадастатковага.

«Вера і шытыя сланы» не столькі казка для дзяцей, колькі псіхалагічны трэнінг для іх бацькоў.

Як і «Ша-ша з левага чаравіка». Ша-ша — цудоўнае стварэнне, якое з'явілася аднойчы ўвечары ў кватэры Светы (якое мілае імя). Шаша прыходзіць да людзей, каб навучыць іх тром рэчам.




Рэчы кожны раз розныя, але аб'ядноўвае іх адно: безумоўная неабходнасць чалавеку. Навука Ша-шы можа ўратаваць вас ад ціхай, нікому — і вам самім — не заўважнай гібелі.

Настрой казак спадарыні Алены — далікатны, утульны, вельмі «свой» — падтрымліваюць ілюстрацыі Таццяны Дзіваковай (якое добрае прозвішча). Таму без перабольшвання можна лічыць кнігу «Ша-ша з левага чаравіка» лепшай у серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда» — і адным з лепшых праектаў выдавецтва ўвогуле.

## ПОСТМАДЭРНІЗМ У ПЯСОЧНІЦЫ

**«Забавы дзетвары»** — кніга вершыкаў для дзяцей пра іх саміх і навакольны свет (збольшага прыроду). Так ці інакш, усё, пра што піша **Галіна Нічыпаровіч**, добра вядома дзецям — з уласнага, хоць і такога невялікага, досведу ці з іншых кніжак ды фільмаў. Спадарыня Галіна апісвае зімовыя гульні і святы, штодзённыя радасці і перажыванні. У жартаўлівай форме аўтарка тлумачыць сваім чытачам, чаго ад іх чакаюць дарослыя, а чаго рабіць няварта — такая сабе літаратурная спроба сацыялізаваць маленькіх анархістаў. Прычым, ідзе яна ад зваротнага: аўтар паказвае адмоўны прыклад, і хоць яна не асуджае кепскія паводзіны свайго героя, малы чытач зразумее: так рабіць нявварта:

*Шчочкі, лоб і нос кірпаты*
*Перапэцканы у Наты.*

Тут, дарэчы, пытанне з «ў» вырашаецца вельмі лёгка: «перапэцканыя ў Наты».

Усе вершыкі «бойкія», вясёлыя, хоць і не вылучаюцца асаблівай арыгінальнасцю. Іншыя творы варта было б дапрацаваць: наладзіць рытм




так, каб не выпадала «ў», больш дакладна, зграбна фармуляваць думкі.

Ёсць у «Забавах дзетвары» адна адметнасць, на якую хочацца звярнуць увагу не толькі чытачоў, але і самой аўтаркі. Вершык «Танюшына гора» прачытваецца як прыквел да славутай драмы пра Таню і мячык; у вершыку «Сваволнік» ёсць радок «адарваў сабачку лапу», што таксама наводзіць на думкі пра іншы дзіцячы твор. І як на мяне, гэта добрая ідэя — даваць іншае прачытанне класіцы, пераносіць герояў у наш час, нашую краіну, вымалёўваць новыя дэталі ў даўняй гісторыі і пад. У прозе гэтым займалася Алена Турава: яе «Рыжык у Залюстроўі» і «Кіндэрвілейскі прывід» — шчыльнае сспляценне спасылак, інтэртэкстаў, прамога цытавання, удалага запазычання. Галіна Нічыпаровіч зрабіла такую спробу — толькі спробу — у дзіцячых вершах. Было б добра развіць гэтую спробу ў паўнавартасны творчы праект. Аднак пры гэтым варта памятаць, што творы-«працягі» не павінны моцна саступаць арыгіналам, а ў ідэале мусяць не саступаць увогуле, хоць гэта і надзвычай складана.

Пры дабрасумленнай, нетаропкай працы ў спадарыні Галіны ўсё мусіць атрымацца. Тым больш што яе натхняюць шасцёра ўнукаў.

## БАЙКІ Ў ПРОЗЕ

**Янка Галубовіч** з 1990-х гадоў піша дзіцячыя кнігі, а аднаго разу нават выдаў зборнік дэтэктыўных апавяданняў «Вяселля не будзе». Змрочных гісторый са злачынствамі і пакараннямі хапае і ў чарговым яго зборніку казак **«Шчодрая ваверка»**.

Гэтыя казкі можна лічыць байкамі, запісанымі ў празаіч-




най форме: тут нязменна прысутнічаюць алегорыя і мараль, якая зазвычай прапагандуе думку «хто не працуе, той не есць». Ёсць і іншыя ўстаноўкі, якія аўтар спрабуе прывіць маламу чытачу: дапамагай бліжняму свайму, на зло адказвай дабром, але чужынцам не дужа давярай; парады слухай, ды свой розум май; сябар спазнаецца ў бядзе — і многае іншае, што наўрад ці можа павесяліць дзіця, а ў яго мамы, таты ці бабулі выкліча змрочную ўсмешку, маўляў, так і ёсць, жыццё пражыць — не поле перайсці.

Казкі Янкі Галубовіча перасыпаныя прыказкамі, якія не столькі дапамагаюць раскрыць сэнс твора (ён і без таго зразумелы), колькі аздабляюць тэксты, робяць творы для дзяцей адметнымі. Разам з тым прыказкі надаюць казкам падкрэслена беларускае гучанне, таму ў перакладзе на ўсялякую іншую мову казкі Я. Галубовіча загучалі б зусім інакш. «Во няўдаліца, — падумала казарупліўка пра сваю суседку. — У хаце страха цячэ і печ не пячэ, а ёй хоць бы што. [...] Але, як кажуць, у людзей пытай, ды свой розум май».

Нягледзячы на агульны невясёлы настрой, які пакідае па сабе кніжка, надзея на лепшае ёсць. Часцей за ўсё непуцёвых герояў ратуюць (усе героі ў Я. Галубовіча — з жывёльнага свету, адзін раз імі сталі дрэвы), згубленыя дзеці знаходзяцца, разбураныя хаты аднаўляюцца, знішчаны дабрабыт наладжваецца. Але, як і ў жыцці, іншым разам героям не шанцуе.

Я б не раіў чытаць дзецям усе казкі запар, бо гэта можа моцна напсаваць ім прыроджаны аптымізм. Але як прышчэпка ад небяспечнай бесклапотнасці «Шчодрая ваверка» будзе дарэчы. Пры гэтым у казках




шмат пейзажных замалёвак, ад якіх на душы робіцца крыху святлей.

## ГОСЦІ З УКРАІНЫ

**Міхайла Слабашпіцкі** — украінскі празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст, грамадскі дзеяч і да ўсяго — аўтар дзіцячых кніг. Адну з іх — **«Ці далёка да Афрыкі?»** — пераклаў на беларускую мову Алесь Карлюкевіч.

Сем апавяданняў, якія склалі кнігу, аб'ядноўвае адзін герой, які насамрэч не раз выяўляе сябе героем. Жыццё Слаўкі адрозніваецца ад жыцця іншых хлопчыкаў: сярод яго лепшых сяброў зазвычай лічацца жывёлы, а вольны час ён бавіць не за камп'ютарнымі гульнямі, а за кніжкамі, у назіраннях за прыродай, вывучэнні далёкай і такой прыцягальнай Афрыкі. У яго доме жывуць сабака, сапраўдны афрыканскі папугай і верабей Цінь-Цвірынь. Не ведаючы мовы жывёлаў, Слаўка цудоўна з імі разумеецца і ў адказ атрымлівае шчырае сяброўства.

Міхайла Слабашпіцкі як сталы аўтар мае выпрацаваны стыль, які не саступае найлепшым узорам дзіцячай літаратуры. Ён не злоўжывае апісальнасцю, павучальнасцю (яе ўвогуле няма), яго дыялогі натуральныя і заўжды маюць значэнне для твора — альбо раскрываюць рысы характару герояў, альбо намякаюць на пэўныя падзеі, якія быццам бы застаюцца па-за ўвагай чытача. Апісанні герояў-жывёл — старога каня Каштана, жако, Цінь-Цвірыня — не выглядаюць карціннымі ці найграныя. Гэта жывыя істоты, жывыя душы. Апавяданні спадара Міхайлы — сапраўды якасная літаратура. Шкада толькі, што не ўсе ілюстрацыі адпавядаюць мастацкаму ўзроўню тэксту.

Прырода грае вызначальную ролю ў кнізе, але і людзям у ёй месца знаходзіцца. Аўтар прыкмячае смешныя чалавечыя рысы і паказвае іх нам, але не злосна, а як бы з цёплым шкадаваннем, што вось такія мы і што тут зробіш.

Часам «Ці далёка да Афрыкі?» нагадвае светлыя апавяданні Паўстоўскага, часам — «Дзяніскіны апоеды», але толькі стылістычна і так бы мовіць настраёва, бо сюжэтна творы Міхайлы Слабашпіцкага вельмі арыгінальныя.

**Адам БЕЛЬЧЫК**

Вяртанне

# Феномен Суціна

**Французскія вуліцы названыя імем творцы, які нарадзіўся ў пасёлку Смілавічы. Яшчэ пару гадоў таму ў Беларусі пра яго амаль ніхто не ведаў, а ў свеце ўжо палявалі на яго карціны. Вяртанне імёнаў нашых сусветна вядомых суайчыннікаў у культурную прастору Беларусі — галоўная мэта І Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Суцінскія чытанні».**

Форум, які прайшоў 19 — 21 красавіка ў Мінску і Смілавічах, сабраў айчынных і замежных даследчыкаў спадчыны мастака Хаіма Суціна. Мастацтвазнаўцы, дыпламаты, гісторыкі мастацтва і калекцыянеры разважалі пра жыццё і творчасць загадкавага, містычнага, псіхалагічна тонкага генія, чые творы — адны з самых дарагіх у свеце. Канферэнцыя была арганізавана па ініцыятыве прыватнай установы культуры «Спадчына і час» пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і галерэі «Кніжны салон» — цалкам за кошт асабістых ахвяраванняў.

Адкрываючы форум, арт-кансультант і калекцыянер Уладзімір Шчасны патлумачыў, чаму Хаім Суцін быў невядомы на радзіме, з'яўляючыся пры гэтым яскравым прадстаўніком Парыжскай школы мастакоў разам з Маркам Шагалам.

Змястоўныя даклады прадставілі спецыялісты з Францыі і Літвы. Дырэктар Парыжскай Пінакатэкі, гісторык мастацтва Марк Рэстэліні развеяў многія міфы, звязаныя з Суціным, раскрыў псіхалогію мастака і патлумачыў ролю іудаізму ў яго творчасці. Дырэктар Мастацкага музея імя Поля Валеры, арганізатар першай буйной выстаўкі Суціна ў Францыі, мастацтвазнаўца Маітэ Валес-Блэд прааналізавала карціны майстра, асабліва тыя, дзе выяўлены самыя распаўсюджаныя яго матывы: партрэты звычайных жыхароў, дрэвы, мёртвыя птушкі і тушы быкоў. Мастацтвазнаўца распавяла таксама пра імкненне Суціна выйсці на палотнах за межы традыцыйнага жыцця.

Мастак і паэт Мішэль Лебрэн Франзаралі, які прысвяціў творцу дзве кнігі, прадставіў слухачам даследаванне фотадакументаў, звязаных з Суціным, адкрыў невядомыя раней факты яго біяграфіі. Таксама на канферэнцыі выступіла дырэктар Дзяржаўнага Інстытута культуры, філасофіі і мастацтва Літвы, аўтар публікацый пра Віленскую мастацкую школу І. Трутнева Іаланта Шыркайтэ і іншыя эксперты.

Акрамя дакладаў, у рамках канферэнцыі адбылася прэзентацыя дакументальнага фільма «Хаім Суцін» рэжысёра Мюр'ель Абітбол-Леві. Дзіцячы тэатральны цэнтр «Вулей» з Масквы і яго кіраўнік Дарына Крук прадставілі макеты, якія ілюструюць месцы, дзе бываў Суцін — домік у Смілавічах, парыжскае кафэ і г. д. Асобны блок канферэнцыі быў прысвечаны мастаку Шраге Царфіну — земляку і сябру Хаіма Суціна.

На другі дзень форуму, 20 красавіка, у Смілавічах усіх чакаў сюрпрыз — аднадзённая экспазіцыя арыгінальных карцін Суціна і Царфіна ў музеі «Прастора Хаіма Суціна». Адзін з самых дарагіх у Беларусі твораў, пейзаж «Вялікія лужкі ў Шартры каля віядука», а таксама шэсць іншых палотнаў і адна гуаш трапілі да гледачоў дзякуючы карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка. Завяршылася канферэнцыя анонсам працягу «Суцінскіх чытанняў» — мастацкага пленэру «Прастора Суціна», запланаванага на восень гэтага года.

**Марыя ВОЙЦІК**

---

*У віленскім Палацы-музеі Вялікіх Князёў Літоўскіх у межах Дзён культуры Беларусі ў Літве адкрылася выстаўка «Сярэдневечнае ўпрыгожанне. Загадкавы пояс эпохі Вітаўта Вялікага». У экспазіцыі прадстаўлены ўнікальны парадны паясны набор, што атрымаў неафіцыйную назву «пояс Вітаўта». Сёння ўнікат захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, але лёс гэтага прадмета пакручасты. У пачатку 1990-х гадоў паясны набор быў знойдзены ў складзе манетна-рэчыўнага скарбу каля вёскі Літва, што ў Маладзечанскім раёне. Больш як дзесяцігоддзе ён знаходзіўся ў прыватнай калекцыі, і толькі ў 2006 годзе дзякуючы намаганням доктара гістарычных навук, прафесара БДУ Валянціна Рабцэвіча быў перададзены ва ўласнасць дзяржавы. З 2007 года «пояс Вітаўта» ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.*

*Прапануем чытачам «ЛіМа» нарыс вядомага археолага, кандыдата гістарычных навук Мікалая Плавінскага, у якім аўтар распавядае гісторыю знаходкі, фармулюе асноўныя версіі паходжання і называе магчымых уладальнікаў гэтага загадкавага пояса.*

# Падарунак для Вітаўта?



Унікальны паясны набор канца XIV — пачатку XV ст.



Вітаўт Вялікі. Мініяцюра 1555 г.

**Адзін з самых буйных скарбаў на беларускай зямлі паходзіць з-пад вёскі Літва Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Дзякуючы шматлікім паведамленням у сродках масавай інфармацыі, гісторыя выяўлення і лёс яго сталі шырока вядомымі ў грамадстве, а самы каштоўны артэфакт з яго складу атрымаў назву «пояс Вітаўта».**

Знойдзены скарб каля вёскі Літва ў 1992 годзе. На жаль, ён быў раскрадзены ўжо падчас выяўлення, і толькі пасля шматлікіх «прыгодаў», дзякуючы, без перабольшвання, тытанічным намаганням Валянціна Рабцэвіча, частка каштоўнасцей патрапіла ў зборы беларускіх музеяў. Але нават захаваная частка скарбу ўражвае нечуваным багаццем: зберагліся 6244 срэбныя манеты (захоўваюцца ў музеі грошай Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь) і ўнікальны паясны набор (ён стаў адным з цэнтральных прадметаў у экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь). Яшчэ адзін паясны набор, срэбны посуд і частка манет (магчыма, нават большая іх частка), «растварыліся» ў прыватных калекцыях.

Большасць манет са скарбу была адчаканена ў Чэхіі ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзя, у часы панавання караля Вацлава IV Люксембургскага. Гэта так званыя пражскія грошы, якія чаканіліся ў Чэхіі з 1300 года. Выяўленне ў беларускай зямлі такой велізарнай колькасці чэшскіх манет не выклікае здзіўлення, бо ў XIV — XV стагоддзях менавіта пражскія грошы сталі асновай грашовага абарачэння ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Унікальнай знаходкай з'яўляецца паясны набор, які складаецца з адзінаццаці срэбных пласцін круглай і зоркападобнай формы, упрыгожаных гравіроўкай, чарненнем і залачэннем, а таксама арнаментаваных чаканкай спражкі і наканечніка і яшчэ чатырох неарнаментаваных пласцін. Усе гэтыя дэталі калісьці мацаваліся на аснову са скуры ці тканіны. Па меркаванні выбітнага расійскага даследчыка золатаардынскага мастацтва Марка Крамароўскага, пояс, да якога належалі накладкі, быў выраблены ў канцы XIV — першай трэці XV стагоддзя ўсходнекрымскімі майстрамі па замове кагосьці з татарскіх уладароў Крыма ці яго высокапастаўленых наблізкаых.

Якім чынам пояс, выраблены крымскімі майстрамі для татарскіх ханаў, патрапіў у скарб, знойдзены ў маладзечанскай зямлі? Вядома, што татары здзяйснялі незлічоныя набегі на землі Вялікага Княства Літоўскага. Ці не з'яўляецца скарб з-пад вёскі Літва сведчаннем аднаго з іх? Напэўна, не. Большасць даследчыкаў сыходзіцца ў меркаванні, што пояс патрапіў у беларускую зямлю мірным шляхам.

Вядома, што ў эпоху Сярэднявечча дыпламатычныя місіі абменьваліся не толькі граматамі і дакументамі, але і рознымі каштоўнымі падарункамі. Да ліку такіх маглі належаць вырабы з каштоўных металаў, заморскія дзівосы і шмат якія іншыя незвычайныя рэчы.

Уручэнне падарункаў суправаджалася адпаведнымі цырымоніямі, парушэнне якіх магло прывесці да абразы прымаючага боку ці саміх паслоў і сарваць усе мэты пасольства. Верагодна, менавіта такім пасольскім падарункам стаўся і пояс са скарбу, бо ў княжацкім і магнацкім асяродку менавіта паясы былі сведчаннямі статусу і багацця іх уладальнікаў.

Некаторыя навукоўцы выказваюць меркаванне, што пояс быў падораны татарскімі пасламі вялікаму князю Вітаўту — самаму магутнаму і знакамітаму валадару Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта таму срэбны залачоны пояс атрымаў назву «пояс Вітаўта», якая была падхоплена і запушчана ў шырокі ўжытак журналістамі.

Але вырашыць дакладна, каму татарскія паслы маглі зрабіць каштоўны падарунак, сёння складана. Магчыма, гэта сапраўды быў вялікі князь Вітаўт альбо хтосьці з яго сваякоў ці прадстаўнікоў найбліжэйшага княжацкага кола. Аднак пра тое, якім чынам найкаштоўнейшы пояс і велізарная колькасць манет патрапілі ў зямлю, можна меркаваць дастаткова ўпэўнена.



Зоркападобная накладка з «пояса Вітаўта».

На падставе аналізу манетнай часткі скарбу з-пад вёскі Літва Валянцін Рабцэвіч вызначыў, што быў ён схаваны падчас грамадзянскай вайны, што разгарэлася ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля смерці Вітаўта, які не пакінуў пасля сябе нашчадкаў па мужчынскай лініі. Вайна доўжылася з 1432 па 1436 год паміж двума прэтэндэнтамі на вялікае княжанне — родным братам Вітаўта Жыгімонтам Кейстутавічам і родным братам Ягайлы Свідрыгайлам Альгердавічам. Дынастычная барацьба паміж сваякамі пачалася на фоне рэлігійных супярэчнасцей паміж праваслаўнымі, якія падтрымлівалі Свідрыгайлу, і каталікамі, што выступілі на баку Жыгімонта. Апошні выйшаў у гэтым супрацьстаянні пераможцам.

На думку гісторыка Васіля Варонiна, скарб быў схаваны каля вёскі Літва ў выніку бітвы, што адбылася ў жніўні 1433 года пад вёскай Капачы, за сем кіламетраў ад месца яго знаходкі. Бітва скончылася перамогай для войскаў Свідрыгайлы. Напэўна, менавіта падчас уцёкаў разбітыя прыхільнікі Жыгімонта ў спешцы схавалі сваю скарбніцу, дзе, акрамя тысяч манет, захоўваліся і каштоўныя паясы.

Унікальнасць скарбу з-пад Літвы вызначаецца не толькі яго надзвычайнай каштоўнасцю, але і тым, што ў айчынных музеях практычна няма прадметаў, якія можна было б, хай сабе і гіпатэтычна, атаясамліваць з сярэднявечнымі ўладарамі нашай дзяржавы. Таму пояс, які ўжо трывала асацыюецца з асобай вялікага князя Вітаўта, заняў у айчыннай гістарычнай традыцыі сваё пачэснае месца. А ці сапраўды ён належаў Вітаўту, сёння сказаць немагчыма. Ды і ці варта?

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Кожнае выданне — шэдэўр!

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Антоній Генрык Радзівіл меў выдатны кампазітарскі талент. Пацвярджэнне таму — прадстаўленае на экспазіцыі першае выданне оперы «Фаўст», прэм'ера якой адбылася ў Берліне ў 1835 годзе. Дарэчы, Антоній Радзівіл быў адзіным кампазітарам, з якім знаміты нямецкі творца Гётэ супрацоўнічаў у якасці лібрэтыста. Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар, мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы» Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Віктар Скорабагатаў зазначыў:

— У Францыі была адна балетная школа, а ў Радзівілаў — дзве. Там вучыліся дзеці прыгонных сялян. Дзяўчаты выходзілі на пенсію ў 25 гадоў, і, канечне, іх нельга было вярнуць у сялянскае асяроддзе, таму былых артыстак выдавалі замуж за шляхціцаў. Радзівілы — вельмі таленавітыя людзі, праявілі сябе ў розных галінах мастацтва. Да прыкладу, Мацей Радзівіл кіраваў нясвіжскім тэатрам. Яго музычныя творы выдаваліся ў Дрэздэне, а на лібрэта М. Радзівіла Ян Давід Голанд напісаў оперу «Агатка, або Прыезд пана». Дарэчы, там ёсць матывы, якія скарыстаў Моцарт у сваім «Вяселлі Фігара». Выдатным кампазітарам быў і Антоній Радзівіл. Пра тое, што ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі ёсць тое самае берлінскае выданне «Фаўста» 1835 года, мы даведаліся толькі пасля прэм'еры нашага спектакля ў Оперным тэатры. А для яго падрыхтоўкі даводзілася ездзіць у Кракаў і Ленінград, каб скапіяваць розныя часткі оперы.

Дарэчы, хутка пабачыць свет кніга Віктара Скорабагатава «Антон Генрык Радзівіл і яго опера "Фаўст"», куды ўвойдуць сапраўды ўнікальныя тэксты, якія раней не выдаваліся пабеларуску. Тут будуць змешчаныя пашыраныя звесткі пра забойства Моцарта, пераклад прадмовы да выдання партытуры і клавіра, якую напісала кіраўніцтва Берлінскай пеўчай акадэміі. А Васіль Сёмуха спецыяльна для гэтай кнігі пераклаў Прывілей караля на выданне «Фаўста». Мяркуецца, што кніга пабачыць свет у чэрвені.

У ліку ўнікальных выданняў, прадстаўленых на выстаўцы ў Нацыянальнай бібліятэцы, — знакамітая «Прэгрынацыя...» — дзённік падарожжаў Мікалая Крыштофа Радзівіла на лацінскай (1610) і польскай (1604) мовах, а таксама перадрук (1640) знакамітай Радзівілаўскай карты. Дарэчы, арыгінал карты не так даўно быў набыты бібліятэкай пры падтрымцы дзяржавы. Ён не экспануецца з-за надзвычай вялікай каштоўнасці гэтага прадмета. У экспазіцыі таксама



Жанна Некрашэвіч-Кароткая распавядае пра выданні, прысвечаныя роду Радзівілаў.



Віктар Скорабагатаў прадстаўляе сваю новую кнігу «Антон Генрык Радзівіл і яго опера "Фаўст"».

прадстаўлены выданні творчай і эпісталярнай спадчыны Марыі Дароты Радзівіл, якая была ініцыятаркай адраджэння Нясвіжскага замка і бібліятэкі ў канцы XIX ст.

Дырэктар Замкавага комплексу «Мір», кандыдат гістарычных навук Вольга Папко распавяла:

— Зараз наш музей займаецца не толькі адраджэннем гісторыі Радзівілаў, уладальнікаў замка. Мы не толькі абапіраемся на даследаванні, якія праводзяць нашы калегі, акадэмічныя вучоныя і спецыялісты ў галіне кнігазнаўства, але і самі займаемся выдавецкай дзейнасцю. Літаральна месяц таму мы атрымалі ліцэнзію і зусім хутка з друку выйдзе першая кніга пад выдавецкай маркай Замкавага комплексу «Мір». Яна будзе прысвечана гісторыі роду Ільінічаў, якія пабудавалі Мірскі замак.

Думаецца, словы Вольгі Іванаўны — сведчанне таго, што справа Радзівілаў — знакамітых апекуноў навукі і мастацтваў — жыве. Музеі, бібліятэкі не толькі набываюць мастацкія творы, працуюць у кірунку вяртання каштоўнасцей на Беларусь, але і ствараюць новыя працы, што стануць выдатнымі памяткамі нашчадкам пра наш час.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**



*Фота Кастуся Дробава*

# Дакументу верыць

**Сустрэча з французскім гісторыкам, аўтарам многіх гістарычных кніг Жан-Жакам Мары прайшла ў Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Спадар Жан-Жак доўгі час працаваў над гісторыяй Кастрычніцкай рэвалюцыі, напісаў біяграфіі кіраўнікоў СССР, даследаваў грамадзянскую вайну 1917 года. Яго кнігі выдаюцца ў Францыі, а таксама Чэхіі і Грэцыі, на рускую і беларускую мову ніколі не перакладаліся, аднак асобнікі на французскай мове, прывезеныя аўтарам у Беларусь, былі перададзеныя ў Нацыянальную бібліятэку краіны.

Каб пагутарыць з французскім гісторыкам, абмеркаваць актуальныя пытанні часу, сабраліся сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі, навукоўцы, а таксама выкладчыкі і студэнты факультэта міжнародных адносін БДУ. Французскі госць заўважыў, што пра Беларусь ведае не так шмат (калісьці чытаў кнігі Алеся Адамовіча і Васіля Быкава), але з задавальненнем узяў удзел у агульнай гутарцы.

— Зараз мы жывём у вельмі напружаны перыяд, — разважае Жан-Жак Мары. — Адбываюцца складаныя палітычныя працэсы, па-іншаму асэнсоўваюцца падзеі мінулага. Фальсіфікацыя гісторыі заўсёды адбывалася ў грамадстве, і мне падаецца, што яна заўсёды будзе мець месца. Таму нам, даследчыкам, трэба старацца як мага больш дасканала вывучаць мінуўшчыну, аналізаваць версіі развіцця падзей. У гэтым працэсе быць цалкам аб'ектыўным, натуральна, немагчыма. Варта вывучаць архівы, дакументы, але самому не фантазіраваць і не прыдумваць.

Па меркаванні французскага даследчыка, галоўная праблема для гісторыка — выбар матэрыялу, на які абапірацца. Вельмі часта навукоўцы бяруць за аснову ўспаміны непасрэдных удзельнікаў падзей, аднак вопыт паказвае, што патрэбна быць вельмі асцярожным з мемуарамі нават самых шчырых людзей.

— Каб знайсці праўду, рацыянальнае зерне, трэба аналізаваць, што адбылося, параўноўваць дакументы, успаміны. І галоўнае — старацца пісаць пра людзей, чыю працу і дзейнасць захавалі сведчанні, — мяркуе Жан-Жак Мары.

У якасці прыкладу гісторык прывёў сваю кнігу пра Лаўрэнція Берыю, напісаную на аснове архіўных дакументаў. У архіве захоўваецца больш як 30 тамоў яго справы, натуральна, што абсалютна з усімі тамамі пазнаёміцца было немагчыма. Аднак апублікавана больш як тысяча старонак вытрымак са справы, і ўжо яны даюць магчымасць зразумець, што адбывалася.

Пры абмеркаванні ўзнікла і пытанне даступнасці архіваў для наведвальнікаў, асабліва замежнікаў. Жан-Жак Мары распавёў, што ён працаваў у расійскіх архівах з 1989 па 1997 год. Там меў доступ да пэўнай колькасці дакументаў, і з кожным годам кола дакументаў пашыралася, а працэдура працы спрашчалася. Больш за тое, сама праца ў архівах — не адзіны спосаб пазнаёміцца з дакументамі. Выдавецтва «Росмэн» сёння публікуе вялікую колькасць зборнікаў архіўных дакументаў з грунтоўным навуковым апаратам. Гэтага недастаткова для паўнавартасных даследаванняў, але выдаецца шмат, і гэтыя кнігі дазваляюць убачыць агульную карціну падзей.

Сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі стала сапраўды новым крокам міжнароднага супрацоўніцтва. Так, апроч магчымасці знаёмства з французскім аўтарам, прысутныя сталі сведкамі падпісання дамовы аб супрацоўніцтве паміж СПБ і Саюзам пісьменнікаў Дагестана. Дагестанскі бок прадставіў сябар СПБ, паэт Хізры Асадулаеў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Адкрыць свет лірыкі

**Фестываль маладой паэзіі Беларусі, ініцыяваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, адкрыўся ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5. Свята будзе праходзіць у розных культурных установах сталіцы цягам двух месяцаў.**

Сваю творчасць гледачам прадставілі шэсць маладых паэтэс: Маргарыта Латышкевіч, Яна Явіч, Дар'я Лёсава, Ганна Мартынчык, Кацярына Массэ і Аліна Карпіцкая.

Завітаў на імпрэзу і празаік Фёдар Конеў, які нядаўна адзначыў 80-гадовы юбілей. Старшыня МГА СПБ уручыў Фёдару Ягоравічу вышэйшую ўзнагароду Саюза пісьменнікаў Беларусі — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў падкрэсліў, што паэзія — рэч надзвычай тонкая, таму яе здольныя разумець толькі людзі з багатым унутраным светам і чулай душою. Сцвярджэнне таму — творчасць удзельнікаў фестывалю.

Паэтэса і празаік Яна Явіч піша і па-беларуску, і па-руску. Публіцы яна прадставіла як вершы з дэбютнага зборніка «Сувязь жыццяў», так і напісаныя пазней. Пяшчотныя, пасапраўднаму жаночыя вершы чытала выпускніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, супрацоўніца Беларускага дзяржаўнага архівамузея літаратуры і мастацтва Дар'я Лёсава. Маладая пісьменніца распавяла, што піша з дзяцінства, апублікавалася ўпершыню ў часопісе «Вясёлка», яшчэ другакласніцай.

Надзвычай яскравым атрымалася выступленне Маргарыты Латышкевіч, пераможцы літаратурнага конкурсу, прымеркаванага да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, лаўрэата літаратурнага конкурсу "Лунінская восень" і I Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых аўтараў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Мост дружбы». Дакладней, не выступленне, а паэтычная гульня з аўдыторыяй, бо свае вершы Маргарыта праілюстравала карткамі-піктаграмамі: пытальнікам, хмаркай, кветкай, марскімі хвалямі...

Зусім не юнацкай філасофіяй прасякнута творчасць Кацярыны Массэ, таксама лаўрэата некалькіх літаратурных прэмій, аўтара двух зборнікаў — «Ліецца свята ў маё акно» і «Двайчны код». Падчас імпрэзы паэтэса чытала вершы на дзвюх мовах.

Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп», ураджэнка Віцебска Аліна Карпіцкая стварыла шэраг вершаў, прысвечаных сямейнікам: маці, бацьку і сястры. Думаецца, што паэтэса працягне ствараць вершы для дзяцей, кшталту ўласнага твора «Каларадскія жырафы». Дарэчы, і хобі ў Аліны незвычайнае для дзяўчат — паляванне.

Вершы Ганны Мартынчык — светлыя, чыстыя, прасякнутыя рэлігійнай тэматыкай, па-асабліваму кранулі чытацкія сэрцы. А яшчэ Ганна піша прозу і працуе над уласным сцэнарыем літаратурна-тэатральнага праекта: сумесна з народным тэатрам пры БНТУ будзе створаны спектакль на яе вершы.

Мэта фестывалю — прадставіць шырокай публіцы як мага больш новых літаратурных імёнаў. Старт свята дадзены. Працяг абяцае быць яшчэ цікавейшым.

**Арына КРАЙКО**



Фота Кастуся Дробава

*Маргарыта Латышкевіч.*

# Навука, містыка, фэнтэзі

**Паэтэса, празаік-фантаст, прыхільніца рун і амулетаў, аматарка котак, аспірантка БДУ... Скажаце, што сумясціць усё гэта аднаму чалавеку не пад сілу? А вось і няпраўда! Адваротнае сцвярджае сённяшняя гераіня новага праекта — Маргарыта Латышкевіч.**

— Маргарыта з самага дзяцінства адрознівалася ад сваіх аднагодкаў, — распавядае маці творцы, Ірына Мікалаеўна. — Размаўляць пачала не асобнымі словамі, а фразамі. З задавальненнем слухала кружэлкі з казкамі, малявала, а яшчэ вучыла на памяць вершы. Дашкольніцай самастойна зрабіла са сшыткавага аркуша маленькую кніжачку з выявамі коціка і подпісамі: «Коцік ідзе ў школу», «Коцік есць», «Коцік шпацыруе»... На той час у нас якраз з'явіўся кот Максімка, які пражыў у сям'і 18 гадоў.

Пасля Маргарыта апантана чытала Дж. Р. Р. Толкіена, К. Булычова, І. Ганчарова, О. Генры, А. Дзюма. І праглядала альбомы жывапісу: А. Дзюрэр, Л. да Вінчы, Траццякоўская галерэя... Са школьных



*З бацькамі. Пачатак 1990-х.*



*У час адпачынку на моры.*



*Хобі па-за літаратурай.*

прадметаў акрамя беларускай, англійскай і нямецкай моў любіла фізіку. Першыя вершы пісала «ў стол». Значна пазней, калі бацькі зразумелі, што дачка захаплялася літаратурай усур'ёз, пачалі шукаць шляхі для выхаду твораў Маргарыты на старонкі айчыннай перыёдыкі. Так адбылося знаёмства пачынаючай паэтэсы (на той час сям'я жыла ў Брэсце) з часопісам «Бярозка», публікацыя ў гэтым выданні... На рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове Маргарыта пазнаёмілася з выкладчыкамі Белдзяржуніверсітэта: Уладзімірам Куліковічам, Паўлам Навойчыкам. І ўрэшце абрала для паступлення беларускае аддзяленне філфака БДУ.

Цяпер Маргарыта вучыцца ў аспірантуры Белдзяржуніверсітэта, працуе лабарантам вучэбна-навуковай лабараторыі ў гэтай жа ўстанове. Студэнты рыхтуюцца тут да фальклорнай практыкі. Дапамагае Маргарыта і выкладчыкам, кансультуе студэнтаў, што пішуць курсавыя працы. Яна прызнаецца, што вельмі любіць філфак. У ліку навуковых інтарэсаў — фантастыка і фантастыказнаўства, міфалогія, фальклорыстыка, казачная проза, фэнтэзі. Маладая даследчыца лічыць, што складанасць вывучэння фантастыкі палягае ў неабходнасці пастаянна даводзіць правамернасць аналізу гэтага жанру, блізкага да масавай літаратуры.

На думку Маргарыты, любімая справа не толькі прыносіць эстэтычнае задавальненне і творчы плён — яе заўсёды імкнешся рабіць як мага лепш, больш якасна. Таму яна і выбрала аб'ектам вывучэння менавіта фантастыку, якой захапляецца з дзяцінства. Яе любімыя фэнтэзійныя персанажы — гномы, прычым менавіта такія, якімі іх паказвае ў сваёй творчасці Толкіен.

— Вобразны свет гэтага пісьменніка — стылізаванае, выкшталцонае Сярэднявечча — вельмі блізкі мне па духу, — адзначае Маргарыта. — Для насельнікаў свайго свету ён, філолаг па адукацыі, распрацаваў і таемную мову з загадкавай назвай khuzdul (кхуздул), генетычна блізкую, як ні дзіўна, да іўрыту, і цэлую сістэму ўласных імёнаў. А яшчэ раней, студэнтам, на аснове фінскай стварыў некалькі варыянтаў эльфаўскіх моў, на якіх нават пісаў дзённікі...

Увогуле, любую мову Маргарыта ўспрымае як энцыклапедыю: корань кожнага слова заключае ў сабе пэўную фіксаваную тэматыку. Ёй цікава назіраць за тым, як словы існуюць у тэксце, як яны напаўняюць значэннем розныя назвы. А фантастыка, паводле яе меркавання, усяго толькі вопратка думкі, бо персанажы ўсё роўна застануцца тымі самымі людзьмі, нават калі апрануць іх у строі Сярэднявечча ці Рэнесансу. Так і ідэя твора, незалежна ад таго, належыць ён да фантастычнага ці рэалістычнага кірунку, застаецца пастаяннай. Адзін з яе фантастычных твораў — «Радыёмаўчанне» («Маладосць», № 4/2014) — аповед пра чалавечую адзіноту, пра тое, што вельмі добра, калі побач ёсць хтосьці, хто разам з табою будзе слухаць на радыёхвалях цішыню. А чаканне сігналаў звонку — гэта і ёсць унутраны стан нашага сучасніка: людзі ж існуюць у стракатай інфармацыйнай прасторы, штодзень атрымліваючы вялізную колькасць інфармацыі, але ў той жа час ім можа бракаваць жывых чалавечых стасункаў. На напісанне верша «Пірацкая кадрыля», дзе яна згадвае і падступны італьянскі род Борджа, яе натхніў... закон аб барацьбе з пірацтвам!

Увогуле, што да паэзіі Маргарыты, то яе ключавыя вобразы — коткі і дождж. Мабыць, звязана з імі і назва першага ўласнага паэтычнага зборніка — «Пульс навальніц», што пабачыў свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

І нават захапленне варажбой на рунах дзяўчына тлумачыць любоўю да творчасці Толкіена, бо прыдуманая ім магічная мова заснавана... на скандынаўскім рунічным алфавіце! А яшчэ Маргарыта стварае коміксы, выдатна малюе, працуе над мастацкім афармленнем кніг... Адным словам, неймаверна крэатыўны чалавек у неймаверна крэатыўнай прасторы!

**Яна ЯВІЧ**

# Навінкі кнігавыдання

### Руская літаратура

**Извольский, С.** Дикий мир. Колонисты / Сергей Извольский. — Москва: АСТ, 2014. — 444 с. — Перед выпускными данными: 16+. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086260-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3444-6 (Харвест) (в пер.).

**Колина, Е.** Предпоследняя правда: семейная сага: [роман] / Елена Колина. — Москва: АСТ, 2014. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083739-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3395-1 (Харвест).

**Лучшие новейшие анекдоты** / [составитель Е. В. Маркина]. — Москва: АСТ, 2014. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083416-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3296-1 (Харвест) (в пер.). — ISBN 978-985-18-3291-1 (ошибоч.).

**Солженицын, А. И.** В круге первом: [роман] / Александр Солженицын. — Москва: АСТ, 2014. — 765 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078246-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1166-9 (Харвест) (в пер.).

**Сухаренко, А. И.** Вырванное сердце: [роман-психологема] / Алексей Сухаренко. — Москва: АСТ, 2014. — 506 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-084988-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3371-5 (Харвест) (в пер.).



***Мартинович, А. Ангел и без крыльев — ангел: историческая повесть / Алесь Мартинович. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 220 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1551-2 (в пер.).***

*У сваёй новай гістарычнай аповесці Алесь Марціновіч распавядае сумную гісторыю кахання Элізы з роду Радзівілаў і будучага імператара аб'яднанай Германіі Вільгельма І. Яны пазнаёміліся, калі яшчэ былі дзецьмі і сапраўды пакахалі адно аднаго. Але, на жаль, не змаглі быць разам. Лёс склаўся так, што Эліза памерла ва ўзросце 31 года, а Вільгельм дажыў да глыбокай старасці. Паміраючы, імператар папрасіў пакласці яму ў труну мініяцюрны партрэт Элізы, які ўвесь час стаяў на пісьмовым стале ў яго берлінскім палацы.*

**Трой, Н.** Медиавирус / Николай Трой. — Москва: АСТ, 2014. — 379 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086605-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3388-3 (Харвест) (в пер.).

**Углов, Ф. Г.** Сердце хирурга: [роман] / Федор Углов. — Изд. дополненное и переработанное. — Москва: АСТ, 2014. — 509 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080432-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3363-0 (Харвест) (в пер.).

**Филатов, Л. А.** Про Федота-стрельца, удалого молодца: первое полностью иллюстрированное издание / Леонид Филатов; иллюстрации Е. Глейзер. — Москва: АСТ, 2014. — 110 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-082860-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2613-7 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Анищева, Э. А.** Заметки на страницах жизни: [стихи, проза] / Эмма Анищева. — Минск: Национальная библиотека Беларуси, 2014. — 111 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7039-42-5 (в пер.).

**Василевский, Н. А.** Солнечный чай: [Повесть. Рассказы] / Николай Василевский. — Минск: Литературный свет, 2014. — 173 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-25-9.

**Вересницкий, А.** Из любви и света: лирика / Андрей Вересницкий. — Гомель: Барк, 2014. — 95 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7065-20-2.

**Ветошкин, В. Л.** Дорогой бытия: стихи и переводы / Валерий Ветошкин. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 137 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-72-7 (в пер.).

**Ветошкин, В. Л.** Над суетой времен: стихотворения / Валерий Ветошкин. — Изд. 2-е. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 158 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-78-9 (в пер.).

**Войникова, Е. В.** Дары Дракона: [роман] / Екатерина Войникова. — Минск: Харвест, 2014. — 255 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3240-4 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Ночной дозор. Умереть — непозволительная роскошь: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 318 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3223-7 (в пер.).

**Воронин, А. Н.** Убийца не придет на похороны: [роман] / Андрей Воронин. — Минск: Харвест, 2014. — 478 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3222-0 (в пер.).

**Глушков, В. Н.** Врата зримые и незримые: стихотворения / Владимир Глушков. — Полоцк: Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке Полоцкой епархии Белорусской Православной Церкви, 2014. — 149 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6945-16-1 (в пер.).

**Горбачев, Ю. В.** Пришла пора...: [стихи] / Юрий Горбачев. — Минск: Ковчег, 2014. — 23 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7086-51-1.

**Гуринович, Ф. Ф.** Пуще неволи: рассказы, стихи, зарисовки / Федор Гуринович. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 463 с. — 550 экз. — ISBN 978-985-7089-69-7 (в пер.).

**Емельянчук, Н. А.** Исповедь души: стихи / Николай Емельянчук. — Слоним: Слонимская типография, 2014. — 73 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-7027-19-4.

**Заслонова, И. К.** Всемирно неизвестный: роман / Иза Заслонова. — Минск: Лазурак, 2014. — 455 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6260-62-2 (в пер.).

**Затогин, М. И.** Вдохновение: стихи / Марк Затогин. — Минск: Ковчег, 2014. — 186 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7055-99-9.

**Кветковская, В. Ф.** Оттаявшие небеса: стихотворения / Вера Кветковская. — Минск: Кнігосбор, 2014. — 85 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-65-9.

**Липский, М.** 100 строк о главном: [сборник стихов] / Михаил Липский. — Минск: Лазурак, 2014. — 54 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6260-61-5.

**Литературный объектифф:** литературный альманах / Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет, Историко-филологический факультет; [редколлегия: А. И. Мозго (отв. редактор), Д. А. Лабовкин, С. В. Гочаков]. — Новополоцк: ПГУ, 2014— Основан в 2014 г.

Вып. 2. — 2014. — 74 с. — Часть текста на английском, белорусском, голландском и немецком языках. — 99 экз. — ISBN 978-985-531-451-7.

**Моряков, Л. В.** Криминальные рассказы о любви / Леонид Моряков. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 350 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1574-1 (в пер.).

**Панасенко, А. И.** Откровение: стихи и проза / Александра Панасенко; [художник Николай Панасенко]. — Слоним: Слонимская типография, 2014. — 99 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7027-17-0.

**Попова, Е. Г.** Три дамы в поисках любви и смерти: [повести и романы] / Елена Попова. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 364 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1584-0 (в пер.).

**«Пролог» длиною в десять лет...:** коллективный поэтический сборник литературной студии «Пролог» СУ «Инвацентр» ОО «БелОИ» / Социальное учреждение «Инвацентр» общественного объединения «Белорусское общество инвалидов»; [составители: Д. Д. Ермолович-Дащинский, В. Н. Варшанин]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 307 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-73-4.

**Разомазова, Л. В.** Дары волхвов: стихи, мифы, баллады, притчи / Лилия Разомазова. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 284 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-04-1.

**Романовская, Т. С.** Прикосновение души: сборник стихов / Татьяна Романовская. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 115 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-56-7 (в пер.).

**Сапильников, Е. Н.** Братья по совести: Федор Достоевский и другие: поэма / Евгений Сапильников. — Минск: Ковчег, 2014. — 113 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7086-29-0 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Смерть за смерть: беги без оглядки: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 255 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3225-1 (в пер.).

**Чергинец, Н. И.** Третья звезда: верь в мою ложь: [роман] / Чергинец Н. И. — Минск: Харвест, 2014. — 431 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3224-4 (в пер.).

**Шемет, Н.** Незабудки для Пьеро: лирика / Наталья Шемет. — Гомель: Барк, 2014. — 67 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7065-21-9.

**Шклярова, Н. Н.** Засветло: стихи и переводы / Нина Шклярова; [художник Любовь Зубова]. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 131 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-71-0 (в пер.).



***Сульянов, А. К. Непобедимые: документальная повесть / Анатолий Сульянов. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 501 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1570-3 (в пер.).***

*Новая кніга заслужанага работніка культуры Беларусі, генерал-маёра авіяцыі, пісьменніка Анатоля Сульянава прысвечана асобам, дзякуючы якім Савецкі Саюз выстаяў і перамог у Вялікай Айчыннай вайне. Сёння іх імёнамі названыя вуліцы розных гарадоў, але пра жыццё сапраўдных герояў мы ведаем зусім мала. Новае выданне распавядзе шмат цікавых фактаў пра лёсы Валерыя Чкалава, Георгія Жукава, Канстанціна Ракасоўскага і многіх іншых выдатных вайскоўцаў.*

### Украінская літаратура

**Загребельный, П. А.** Ярослав Мудрый: исторический роман / Павел Загребельный; [перевод с украинского И. Ф. Карабутенко]. — Москва: АСТ, 2014. — 572 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086687-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3380-7 (Харвест) (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Багдзевіч, І.** Фенікс: [вершы] / Інеса Багдзевіч. — Мінск, 2014. — 61 с. — 120 экз.

**Барадулін, Р.** Сны сасны: [вершы] / Рыгор Барадулін; [укладанне: Камоцкі А. В.; фатаздымкі: Грудзько В. І.]. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 157 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7021-48-2.

**Бураўкін, Г. М.** Нагаварыцца з зоркамі: [вершы 2010—2013 гг.] / Генадзь Бураўкін; [укладанне Сяргея Шапрана]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 129 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7089-64-2.

**Валько, М.** Эстафета: зборнік прозы і паэзіі / Міхась Валько; [укладальнік, аўтар прадмовы В. В. Шчарбакова]. — Нясвіж: Нясвіжская друкарня, 2014. — 133 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7078-05-9 (у пер.).

**Высоцкі, С.** Родная дарога: вершы, балады, паэма / Стась Высоцкі. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 131 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7103-08-9 (у пер.).

**Кавалерчык, Б. Л.** Аўцюкоўцы жартуюць / Барыс Кавалерчык. — Гомель: Барк, 2014. — 99 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7065-17-2 (у пер.).

**Кулакоўскі, А. М.** Выбраныя творы / Аляксей Кулакоўскі; [укладанне, прадмова і каментар Серафіма Андраюка]. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 571 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-08-1742-6 (у пер.).

**Ладуцька, В. П.** Пра сучаснае і былое: вершы / Валянціна Ладуцька. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 202 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-70-3.

**Максімовіч, В. А.** Сярод блукаючых планет: вершы і паэмы / Валеры Максімовіч. — Мінск: Ковчег, 2014. — 156 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7086-60-3.

**Марозаў, З.** Вачыма сэрца: вершы, санеты, вянкі санетаў, вянок вянкоў санетаў / Змітрок Марозаў; [прадмова Вячаслава Рагойшы]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 288 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7058-99-0.

**Навуменка, І. Я.** Збор твораў: у 10 т. / Іван Навуменка; рэдкалегія: С. С. Лаўшук [і інш.; прадмова Паўла Навуменкі]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012— — ISBN 978-985-02-1387-7 (у пер.).

Т. 4: Аповесці, 1991—2000 / рэдактар тома С. С. Лаўшук; [падрыхтоўка тэкстаў, каментарыі, пасляслоўе Наталлі Пыско]. — 2014. — 845 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-02-1556-7.

**Наркевіч, С.** Пырскі: мініяцюры / Стася Наркевіч; [уступны артыкул А. Казлова]. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. — 103 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-534-061-5.

**Па праву жывога:** кніга-прызнанне сучасных беларускіх паэтаў да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў / [складальнік Т. Ф. Рослік]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 469 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 2050 экз. — ISBN 978-985-11-0792-2 (у пер.).

**Рунцэвіч, У. М.** Эрас: лірыка кахання / Уладзімір Рунцэвіч. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 83 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7089-68-0.

**Сліва, М.** Станцыя Надзея, або Ненапісаная аповесць / Міхась Сліва. — Мінск: Ковчег, 2014. — 51 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-45-0.

**Станкевіч, Г. М.** Зорны воз: вершы і пераклады / Георгій Станкевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 127 с. — 160 экз. — ISBN 978-985-7089-74-1.

**Тамашэвіч, Г. С.** Шлях: вершы / Георгій Тамашэвіч. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2014. — 79 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-524-182-0.

**Тулупава, І. З.** Чую і адгукаюся...: лірыка / Ірына Тулупава. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 40 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7058-88-4.

**Чыгрын, С. М.** Хочацца дахаты: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі, лісты, аўтографы / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 239 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-66-6 (у пер.).

**Я адзавуся!:** кніга пра Каліноўскага і касінераў свабоды / укладальнік Сяргей Панізьнік; [прадмова Г. В. Кісялёў]. — Мінск: Лімарыус, 2014. — 506 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6968-37-5.

### Польская літаратура

**Сапковский, А.** Час презрения: [фантастический роман] / Анджей Сапковский; [перевод с польского Е. Вайсброта]. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082049-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2461-4 (Харвест) (в пер.).

**Свентэк, Р. Ф.** Ад и небо: поэма / Свентэк Ромуальд Францевич; перевод с польского: [Михаил Янчук]. — Брест: Брестская типография, 2014. — 152 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-524-179-0.

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Акунин, Б.** Детская книга для мальчиков / Борис Акунин. — Москва: АСТ, 2014. — 508 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-083803-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3300-5 (Харвест).

**Алексин, А. Г.** Звоните и приезжайте: [для младшего школьного возраста] / А. Алексин; художник В. Челак. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086188-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3212-1 (Харвест) (в пер.).

**Барто, А. Л.** Я знаю, что надо придумать: [стихи: для чтения взрослыми детям] / Агния Барто; [рисунки Ю. Молоканова]. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082281-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3321-0 (Харвест) (в пер.). — ISBN 987-985-18-3321-0 (ошибоч.).

**Былины о богатырях земли русской:** [для младшего школьного возраста] / пересказал для детей А. Н. Нечаев; художники: Г. Кравец, Ю. Кравец. — Москва: АСТ; Тула: Родничок, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086015-9 (АСТ). — ISBN 978-5-89624-589-6 (Родничок). — ISBN 978-985-18-3215-2 (Харвест) (в пер.).

**Верн, Ж.** Путешествие к центру Земли: [роман: для среднего школьного возраста] / Жюль Верн; [перевод с французского Н. А. Егорова]. — Москва: АСТ, 2014. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-086421-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3336-4 (Харвест) (в пер.).

**Идет коза рогатая:** песенки и потешки для самых маленьких: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-063674-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3318-0 (Харвест) (в пер.).

**Лучшие сказки в картинках В. Сутеева:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-076876-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1245-1 (Харвест) (в пер.).

**Лучшие стихи для малышей:** [для дошкольного возраста / художники: И. Цыганков, И. Блохина]. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-89624-580-3 (Родничок). — ISBN 978-5-17-084205-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2989-3 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Детям про все на свете: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079588-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2201-6 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Кошкин дом: сказка-пьеса (в сокращении): [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак; рисунки Т. Сазоновой, К. Прытковой, К. Романенко. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-081659-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1458-5 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Сказка о глупом мышонке: [сказки: для дошкольного возраста] / С. Маршак; рисунки С. Бордюга и Н. Трепенок, В. Каневского. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-081274-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2673-1 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Сказки. Азбука. Стихи: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак ; рисунки Г. Юдина. — Москва: АСТ, 2014. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077203-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1927-6 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Теремок: [пьесы: для младшего школьного возраста] / С. Маршак; художники: М. Курчевская, Ю. Устинова. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 76 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086647-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3349-4 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Читаем любимые стихи: [для дошкольного возраста] / С. Маршак; рисунки А. Елисеева и М. Скобелева. — Москва: АСТ, 2014. — 41 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085358-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3206-0 (Харвест) (в пер.).

**Мейер, М.** Лунные хроники. Золушка: [роман: для среднего школьного возраста] / Марисса Мейер; [перевод с английского: Чертова А.]. — Москва: АСТ, 2014. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-085398-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3345-6 (Харвест) (в пер.).

**Мейер, М.** Лунные хроники. Красная Шапочка: [роман: для среднего школьного возраста] / Марисса Мейер; [перевод с английского: Курова-Чернавина Н.]. — Москва: АСТ, 2014. — 510 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078785-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3356-2 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Любимые стихи: стихи и считалочки: [для чтения взрослыми детям] / С. Михалков; художники: И. Глазов [и др.]. — Москва: АСТ, 2014. — 37 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Художники также: Ионайтис О., Савченко А., Салиенко Н. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084684-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2988-6 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Стихи: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / С. Михалков; художник И. Цыганков. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-89624-578-0 (Родничок). — ISBN 978-5-17-084082-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3216-9 (Харвест) (в пер.).

**Олкотт, Л. М.** Маленькие женщины: [роман (в сокращении): для среднего школьного возраста] / Луиза Мэй Олкотт; перевод с английского М. Ю. Батищевой; художник Е. Булай. — Москва: АСТ, 2014. — 236 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084002-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3209-1 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы: [для младшего школьного возраста] / Г. Остер; [художник А. Мартынов]. — Москва: АСТ, 2014. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-062785-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2258-0 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы; Сказки и сказочные истории: [для младшего и среднего школьного возраста] / Григорий Остер; художники: Е. Запесочная [и др.]. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-085206-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3360-9 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы; Сказки и сказочные истории: [для младшего и среднего школьного возраста] / Григорий Остер; художники: Е. Запесочная [и др.]. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-026162-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3359-3 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы для детей младшего возраста: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Г. Остер; художник А. Мартынов. — Москва: АСТ, 2014. — 207 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080424-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3050-9 (Харвест) (в пер.).

**От 6 месяцев до 3 лет: стихи, сказки, песенки, потешки, загадки:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям) / художники: И. Цыганков, И. Блохина]. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-89624-510-0 (Родничок). — ISBN 978-5-17-082374-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1970-2 (Харвест) (в пер.).

**Пастернак, Б. Л.** Поэзия: [для старшего школьного возраста] / Борис Пастернак. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085418-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3343-2 (Харвест) (в пер.).

**Пришвин, М. М.** Про птиц и зверей: [для младшего школьного возраста] / М. Пришвин; художник И. Цыганков. — Москва: АСТ; Тула: Родничок, 2014. — 73 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-086587-1 (АСТ). — ISBN 978-5-89624-590-2 (Родничок). — ISBN 978-985-18-3334-0 (Харвест) (в пер.).

**Путешествия Синдбада-Морехода:** [арабские сказки: для младшего школьного возраста] / художники: Либико Марайя и Северино Баральди. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086585-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3348-7 (Харвест) (в пер.).

**Руставелі, Ш.** Віцязь у тыгравай шкуры: паэма: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Шата Руставелі; [пераклад з грузінскай на беларускую мову: Звонак А., Хведаровіч М.]. — Мінск: Звязда, 2014. — 223 с. — 18219 экз. — ISBN 978-985-7083-49-7 (у пер.).

**Ситников, Ю.** Алиби для 10 «Б»: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 221 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-799-9 (в пер.).

**Ситников, Ю.** История одной дружбы: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 250 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-849-1 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Я иду тебя искать: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 221 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-804-0 (в пер.).

**Сказки для детей в рисунках В. Сутеева:** [сказки, стихи: для детей до 3 лет: (для чтения родителями детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085698-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3391-3 (Харвест) (в пер.).

**100 стихов для чтения дома и в детском саду:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель В. Г. Дмитриева]. — Москва: АСТ, 2014. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081903-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3211-4 (Харвест) (в пер.).



***Дарашкевіч, Я. Маркотныя зоркі: з паэтычнай спадчыны / Янук Дарашкевіч; [укладанне, прадмова і каментар Сяргея Чыгрына]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 35 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7089-75-8.***

*Гэта сапраўды ўнікальнае выданне, што вяртае з небыцця імя паэта, які працаваў у пачатку ХХ ст. У аснове кнігі — вучнёўскі сшытак з вершамі, што цудам захаваўся і сёння знаходзіцца ў рукапісным фондзе Акадэміі навук Літвы. На жаль, уся спадчына таленавітага паэта, чыю творчасць нават патрабавальны крытык Максім Багдановіч ацэньваў досыць высока, згарэла разам з домам у Варонежы. Сшытак ацалеў, бо Янук Дарашкевіч калісьці дасылаў яго ў рэдакцыю «Нашай нівы». Сам аўтар, родам з Беласточчыны, загінуў у лютым 1943 года ў Арлоўскай вобласці.*

# Будзь, як Памір, вышынь вартавы...

**Гулрухсор Сафіева — імя ў савецкай літаратуры 1970 — 1990-х вядомае, нават больш за тое — шырока вядомае. У сярэдзіне 1980-х — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Таджыкістана. Паэтэсе было ўсяго 37 гадоў (інфармацыя з 1984 г.), а ўжо адна за другой пабачылі свет больш як 20 кніг яе вершаў на таджыкскай і рускай мовах. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Таджыкістана. Лаўрэат прэміі Усесаюзнага Ленінскага камсамола. А яшчэ — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя Рудакі. Аўтар рамана «Жанчыны Сабзбахора» (першая ў гісторыі таджыкскай літаратуры жанчына-раманістка!).**



*Другі Усесаюзны фестываль маладых паэтаў брацкіх рэспублік, прысвечаны 50-годдзю ВЛКСМ. Украіна. г. Мікалаеў. 30.06. — 7.07.1968 г. Гулрухсор Сафіева і Гульчэхра Нарулаева з Узбекістана.*



*Фота Сяргея Панізніка*

*Гулрухсор Сафіева прымае «хлеб-соль». За ёй — Алесь Разанаў.*

Адзін з рускамоўных зборнікаў Г. Сафіевай — «Дзеля цябе» — пабачыў свет накладам 91 тысяча (!) экзэмпляраў. Гэта было ў 1984 годзе. Несумненна, асновай такой узнёсласці быў і застаецца талент. Сімвалы, мастацкія вобразы, вынайдзеныя Гулрухсор Сафіевай, яе здольнасць акрэсліць найбольш цікавыя думкі, — усё гэта прыцягвала і сёння прыцягвае многіх чытачоў менавіта да паэзіі, паэтычнай планеты, над стварэннем якой працавала, працуе геніяльная таджыкская паэтэса.

І, канечне ж, вядомасці, пашырэнню чытацкай прасторы ў дачыненні да мастацкага свету Гулрухсор спрыяла яе актыўнасць, зносіны з іншымі літаратарамі, непасрэдна з паэтэсамі савецкіх рэспублік. Невыпадковым творчым праектам Сафіевай стала яе аўтарская анталогія вершаў паэтэс Савецкага Саюза — «Кветка, якая спявае».

Яшчэ ў 1968 годзе з Гулрухсор Сафіевай пазнаёміўся на той час 26-гадовы беларускі паэт Сяргей Панізнік. І адбылося гэта на II Усесаюзным фестывалі маладых паэтаў брацкіх рэспублік, які праходзіў з 30 чэрвеня па 7 ліпеня 1968 года ў Мікалаеве (Украіна). А Гулрухсор не было яшчэ і 21 года...

— З той паэтычнай сустрэчы ў мяне застаўся і фотаздымак, — расказвае Сяргей Сцяпанавіч. — На ім — фрагмент, калі на адной з фестывальных сустрэч маладая, юная таджыкская паэтэса атрымлівае «хлеб-соль». А за спінай у Гулрухсор — наш Алесь Разанаў. Чым запомніўся той фестываль?.. Захоўваю спецыяльны выпуск мікалаеўскай камсамольскай



*Мікола Маляўка і Алесь Разанаў.*

газеты «Ленінскае племя». Артыкул «Мерыдыяны паэзіі» завяршаецца словамі: «Гасцінна просім, Паэзія!» А ў нумары — у перакладзе на ўкраінскую і рускую вершы Юрыя Саакяна (Арменія), Ахадула Ганбарава (Азербайджан), Марыса Чаклайса (Латвія), Туманбая Малдагаліева (Казахстан), Анаберды Анагабаева (Туркменістан) і, канечне ж, Гулрухсор Сафіевай.

У архіве С. Панізніка — і нумар газеты «Літаратурна Україна» 1968 года з падборкай «Україна, Мікалаеў». І там — верш Гулрухсор. «Дарогу чакання» пераклаў на ўкраінскую мову Леанід Горлач.

Таджыкская паэтэса — аўтар вершаванай падборкі на беларускай мове ў альманаху «Ветразь», які некалькі гадоў запар выходзіў у мінскім выдавецтве «Юнацтва». У многім дзякуючы актыўнасці Сяргея Сцяпанавіча Панізніка. З тых «ветразеўскіх» выпускаў асабіста ў мяне пачалося знаёмства з многімі паэтамі народаў былога Савецкага Саюза. Памятаю вершаваныя падборкі на беларускай мове туркменаў Сапармурада Авезбердыева, Касыма Нурбадава, кіргізкі Нінакан Джундунбаевай... У выпуску за 1988 год — два вершы Гулрухсор Сафіевай: «Мы ў пошуку» і «Наш шлях». Перакладчык на беларускую мову — Мікола Чарняўскі. Дарэчы, праз гады беларускі паэт збярэ анталогію сваіх перакладаў дзіцячай паэзіі свету — «Як зрабіць вясёлым дзень». Не забудзецца і пра свае таджыкскія зацікаўленні.

З Беларуссю Гулрухсор Сафіеву злучае і такі штрышок: свой верш «На Паміры» таджыкскай паэтэсе прысвяціў Алег Лойка:

*На Паміры —*
*не паміраць,*
*Захлёбваючыся*
*бояззю*
*вышыні,*
*На Паміры —*
*сэрца караць,*
*калі не ўзяў*
*вышыні ані.*
*І якое апраўданне,*
*што ты, — з нізін,*
*Што вады*
*цішэйшай,*
*палескай травы, —*
*Гулрухсор гаворыць:*
*«Калі ты —*
*паэзіі сын,*
*Будзь, як Памір,*
*вышынь вартавы,*
*Сын далінаў палескіх*
*ці памірскіх гор,*
*Ты ў адказе*
*за племя кожнае,*
*Кожны род...»*
*«Сына маці раджае, —*
*маеш рацыю Гулрухсор, —*
*Героя і паэта — народ,*
*Паэт, — ён — веснік вясны,*
*ён — чырвоны аргун,*
*І ён жа — джыгіт,*
*а не плакучая*
*маджнунбед, —*
*Ён гор найпануршых*
*абудзіць*
*зымшэлы сон*
*І не абарве, як бездань,*
*продкаў песенны след...»*
*...Асфальт над адхонам. Адхон,*
*за адхонам — адхон.*
*Усміхаецца за рулём «Волгі»*
*Гулрухсор —*
*Аргуон, што ў адказе*
*натхнёным за сыноў*
*спаконвечных гор*
*І што кветкай*
*Купальскай*
*мне з Беларусі відзён.*

Трэба крыху патлумачыць... Аргуон — веснавое дрэва, што квітнее пурпуровым кветам. Маджнунбед — таджыкская вярба.

У Алега Лойкі, які, канечне ж, і чытаў, і добра ведаў Гулрухсор Сафіеву, паяднанне з Таджыкістанам узмацнілася пасля паездкі ў маі 1981 года ў Душанбэ на VII з'езд Саюза пісьменнікаў Таджыкістана. Вось цытата з прамовы Алега Антонавіча на форуме таджыкскіх пісьменнікаў: «...Ваша зямля — гэта і зямля маіх продкаў, бо мама мая, якая нарадзілася каля Ферганы, правяла свае дзяцінства і юнацтва не толькі ў Какандзе, але і ў Канібадаме. Яе бацькі, беларускія сяляне, яшчэ да рэвалюцыі 1905 года паехалі з роднай ім Беларусі ў пошуках работы сюды, каб казкамі майго дзяцінства сталі затым апавяданні пра Вашу казачную краіну. Любоў мамы да Вашай зямлі, яна стала і маёй любоўю...»

Значыць, паэтычнае сонца Гулрухсор Сафіевай яшчэ дакранецца сваімі праменьчыкамі да беларускай зямлі.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*Аблічны*

## Паспець за рэхам

На пераломе красавіцкага надвор'я не вытрымала сэрца Уладзіміра Содаля. Напружанне прыроды перадаецца ўсім чулым людзям, а чуласць мормальскага хлопца была асаблівай. Ён унікаў у глыбокія пласты даследніцкай працы. Кожнае літаратурнае затаенне выносіў на паверхню ведаў. Мы радаваліся ягоным пошукам на мацерыку Багушэвіча. Цікавіўся Валодзя-Ладымер і травінкамі-зёлкамі каля сцежак Зоські Верас.

У вялікай сябрыне мы былі ў Лясной хатцы пад Вільняй, радаваліся ад позіркаў Зоські Верас, угледзіліся ў рарытэты, якія яна захавала, каб на свае 95-годдзе было што паказаць зацікаўленым людзям. Сярод знаных сяброў Зоські Верас былі і Віталь Скалабан, і Уладзімір Содаль — архівісты-пабрацімы. Тады рыхтавалася перадача для Беларускага тэлебачання. І апаратарам, рэдактарам, усёй здымачнай групе дапамагалі родзічы Людвікі Антонаўны — Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч...

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Фота Сяргея Панізніка*

*Зоська Верас. Лясная хатка пад Вільняй. 28 верасня 1987 г.*

# Абуджэнне ў Пружанскім палацыку

**Вясна 2015-га адзначана знакавай датай для беларускага мастацтва — 140-годдзем з дня нараджэння класіка жывапісу Станіслава Жукоўскага (1875 — 1944). Яго лёс непарыўна звязаны з Пружаншчынай, дзе знаходзілася радавая сядзіба — Старая Воля. Менавіта да гэтага юбілею прымеркавана выстаўка ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык», арганізаваная мастацкай суполкай «Абуджэнне».**



*Уладзімір Сайко падчас напісання музея-сядзібы «Пружанскі палацык». 13 лютага 2015 г.*

Мастакі-аднадумцы з Мінска і Узды — Яўген Шунейка, Андрэй Лычкоўскі, Уладзімір Сайко і Фёдар Ладуцька — прадставілі гледачам больш як 40 жывапісных работ. Некаторыя творы былі напісаны спецыяльна для экспанавання ў Пружанах. Так, У. Сайко сярод іншых твораў прадставіў «Партрэт мастака-«сняжыста» С. Жукоўскага», а Я. Шунейка — карціну «Жукоўскі на зімовых эцюдах».

Паводле «абуджэнцаў», вялікі гонар апынуцца ў мясцінах, звязаных са славутым папярэднікам. Менавіта таму сярод твораў экспазіцыі вядучае месца належыць пейзажам. Напісаныя ў розных кутках Беларусі, яны аб'яднаныя адным сэнсам — любоўю да роднай зямлі, жаданнем адлюстраваць яе прыгажосць і непаўторнасць. Нездарма адна з мэт суполкі — знаёмства беларусаў з Беларуссю. Вандруючы па яе абшарах, мастакі фактычна адкрываюць для сябе радзіму, а пасля, з дапамогай мастацкіх сродкаў, распавядаюць пра гэта суайчыннікам.



*Яўген Шунейка «Жукоўскі на зімовых эцюдах». 2015 г.*

Такім адкрыццём стала вандроўка і на Пружаншчыну. Пад уражаннем ад выдатных помнікаў — музея-сядзібы «Пружанскі палацык», гандлёвых радоў «Белыя лаўкі», Ружанскага замка — мастакі напісалі новыя творы, якія змогуць прадставіць у чарговых выставачных праектах. Такая дзейнасць «абуджэнцаў» дазваляе ў нейкай ступені параўнаць іх са Станіславам Жукоўскім. Дзякуючы пейзажам апошняга да нас дайшлі адлюстраванні радзімы мінулага, а суполка сённяшняга дня стварае выявы нашай сучаснасці.

Варта адзначыць, што праца «Абуджэння» накіравана як на сталічнага, так і на правінцыйнага гледача, якому нячаста даводзіцца знаёміцца з сучасным мастацтвам і яго стваральнікамі. На адкрыцці выстаўкі ў «Пружанскім палацыку» ўсе жадаючыя маглі не толькі дакрануцца да прыгожага, але і атрымаць карысныя парады, павучыцца ў прафесійных майстроў працаваць з рознымі фарбамі і тэхнікамі.

Экспазіцыя «Прысвячэнне Станіславу Жукоўскаму» дзейнічала ў Пружанах больш як месяц і пакінула светлыя ўражанні і пазітыўныя эмоцыі. Выставачны праект мастацкай суполкі «Абуджэнне» завяршыўся каштоўным падарункам — у фонды «Пружанскага палацыка» трапіла 9 цікавых жывапісных палотнаў. Прыемна, што ў наш час, калі правінцыяльныя музеі часта развіваюцца за кошт энергіі іх супрацоўнікаў, ёсць людзі, якія разумеюць важнае значэнне гэтых культурна-асветніцкіх асяродкаў і падтрымліваюць творча.

**Наталля ПРАКАПОВІЧ,**
**галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы «Пружанскі палацык»**

# На Віцебшчыне ведаюць

**Жыццё бяжыць няўмольна хутка. Асабліва незаўважна яно мінае, калі чалавек заняты любімай справай. Але надыходзіць час, калі з вышыні пражытых гадоў даводзіцца прааналізаваць пройдзенае, зрабіць выснову: крочыць далей абраным шляхам або...**

Такое пытанне не ўзнікае толькі ў творчых людзей, з ліку якіх і выкладчык Шаркаўшчынскай дзіцячай школы мастацтваў Віктар Крук.

Віктар Фёдаравіч нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і ў вёсцы Кругкаўшчына, што на Магілёўшчыне. Самастойнасць, працавітасць, павага да людзей і вялікая адказнасць за справу выявіліся ў хлопца з дзяцінства — зарадзіліся і засталіся па сёння. Здольнасцямі да малявання вылучаліся амаль усе дзеці сям'і Крукоў. Так і маленькі Віця, калі пайшоў у школу, пачаў афармляць насценную газету, удзельнічаў у раённых конкурсах юных мастакоў, дасылаў свае малюнкі ў дзіцячыя газеты ды часопісы.

У 1967 годзе паступіў у Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава на мастацка-графічны факультэт, дзе пашчасціла вучыцца ў выдатных педагогаў: Фелікса Гумена, Леаніда Дзягелева, Івана Сталярова, Алега Арлова, Альберта Някрасава і многіх іншых. Пасля былі чырвоны дыплом, армія, выкладчыцкая дзейнасць у сельскай школе. Сюды ж, у Бухайскі раён, накіравалі на працу выпускніцу хіміка-біялагічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута Ларысу Васільеўну. Пэўна, ім было лёсам наканавана сустрэцца ў адной настаўніцкай. Праз час маладая сям'я пераехала на радзіму Ларысы, у Шаркаўшчыну.

Спачатку Віктар Фёдаравіч працаваў як акварэліст, потым захапіўся маслам. Любімымі жанрамі сталі партрэт і пейзаж. Яшчэ да вяселля партрэт будучай жонкі ўпрыгожваў пакой юнака. А вось партрэты двух сыноў яшчэ ў праекце. У 1970 годзе мастак зрабіў аўтапартрэт. Затым пайшлі больш сур'ёзныя работы: партрэты Эміліі Плятэр, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Ільі Рэпіна, Язэпа Драздовіча, Хаіма Суціна і многіх іншых. Большасць гэтых палотнаў увайшлі пасля ў выстаўку «Героі майго часу: класіка і сучаснасць».

Віктар Крук — глыбокаверуючы чалавек. Іконы, напісаныя ім, знаходзяцца ў Свята-Успенскай царкве Шаркаўшчыны, дзе мастак служыць старастай і панамаром.

Віктар Фёдаравіч, пэўна, кладзе на мальберт пэндзаль толькі тады, калі спіць. Бо як можна паспяваць ствараць карціны для выставак і кожны дзень выкладаць жывапіс у раённай дзіцячай школе мастацтваў, а яшчэ праца на прысядзібным участку... Больш як 30 гадоў творца вучыць дзяцей бачыць свет у фарбах. Настаўнік ганарыцца тым, што многія яго выхаванцы абралі шлях у мастацтва: Ганна Яблонская (Хаданёнак) працуе ў Маскоўскай гарадской мастацкай галерэі імя П. і С. М. Траццяковых, Ілья Арлюкевіч — адзіны з Беларусі займаецца ў Маскоўскай праваслаўнай духоўнай акадэміі і семінарыі на аддзяленні іканапісу, а таксама жывапісцы і графіцысты Яўген Ліпскі, Артур Маяк, Юрый Матуль і многія іншыя.

За дасягненні ў сферы мастацтва рашэннем Віцебскага аблвыканкама Віктару Круку прысвоена ганаровае звання «Чалавек года Віцебшчыны — 2014» у намінацыі «Культура, мастацтва, духоўнае адраджэнне».

**Кацярына СОСНА**

# Моцарт і... рок

**Вы не падкажаце, калі з непрыкметнага хлопчыка, навучэнца музычнай школы, які кожны дзень грае не адну, а з дзясятак гамаў, вырастае... герой?**

Напэўна, гэта адбываецца, калі нібыта самы непрыкметны ў класе, але засяроджаны на эцюдах вучань адважваецца падаць заяўку на ўдзел у конкурсе. Такі ўчынак — выхад сам-насам у невядомае, спроба перамагчы страх і хваляванне, выявіць сваю сутнасць і адметнасць. І здольны на гэта не кожны.

Герой нашай гісторыі — маленькі Уладзіслаў Хандогій — прайшоў усе туры і ўпершыню ў гісторыі беларускага выканальніцкага піяністычнага мастацтва стаў пераможцам Міжнароднага конкурсу «Шчаўкунок». Чатырнаццацігадовы музыка-змагар вярнуўся на радзіму, заваяваўшы «золата» і прыз глядацкіх сімпатый.

Ніхто не прадбачыць лёс маладога піяніста Уладзіслава Хандогія. Ніхто не ведае, калі зноў мы будзем ганарыцца юным суайчыннікам і ягонымі перамогамі. Каму і калі пашчасціць паслухаць таленавітага піяніста?

Акурат 23 красавіка на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі Уладзіслаў Хандогій выканае Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам № 9 В. А. Моцарта «Моцарт і... Rock». Канцэрт, які знакаміты кампазітар напісаў у 21 год і прысвяціў дачцэ свайго найлепшага сябра Ж.-Ж.Навэра (таго самага, з якога пачалася гісторыя сучаснага балета).

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

*Вытокі*

# Тут валадарыць музыка

**Заслаўская дзіцячая школа мастацтваў распачала музычную вясну вялікім святочным канцэртам, прымеркаваным да 1030-годдзя горада Заслаўя. Навучэнцы разам з настаўнікамі запрасілі шматлікіх гасцей у музычнае падарожжа па краіне творчых адкрыццяў, дзе пануе асаблівы настрой, дзе ўладарыць мастацтва, дзе гучыць Яе Вялікасць музыка.**

Сярод удзельнікаў святочнай імпрэзы ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — пераможцы Міжнародных фестываляў, Рэспубліканскіх і абласных конкурсаў: Ганна Канонік, Соф'я Салаўева, Ангеліна Лях, Ганна Вярбіцкая, уладальнік матэрыяльнай дапамогі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Елісей Ключнік ды іншыя.

Вечар аздобілі яскравыя нумары ўдзельнікаў Чэмпіянату свету па спартыўных бальных танцах у Кітаі Настассі Клепча і Сяргея Подкаса; выступленні ўзорных ансамбляў бальнага танца «КРОК», скрыпачоў «MEZZO», цымбалістаў «Глорыя», народнага ансамбля выкладчыкаў «Каданс». Своеасаблівы пралог канцэртнай праграмы — разгорнутая ў фае Белдзяржфілармоніі выстаўка малюнкаў навучэнцаў мастацкага аддзялення Заслаўскай дзіцячай школы мастацтваў.

Для невялічкага прысталічнага горада Заслаўе Дзіцячая школа мастацтваў — стартавая пляцоўка для юных талентаў, лабараторыя творчасці. Гістарычнае мінулае ўстановы звязана з асобамі, якія распачыналі справу эстэтычнага выхавання і адукацыі дзяцей у далекія 1960 — 1970-я гады. Гэта першы дырэктар Г. Казлоў, У. Папоў, М. Сівіцкі. Сёння тут з поспехам вучацца харэаграфіі, выяўленчаму мастацтву, музыцы каля пайсотні дзяцей. Актыўна працуюць 16 творчых калектываў, чатыры з якіх носяць ганаровыя званні «народны», «узорны».

Кіруе ўсім гэтым дэпутат Заслаўскага гарадскога Савета дэпутатаў, дырэктар школы Валерый Шкурскі. Варта адзначыць, што за сваю 55-гадовую гісторыю школа выпусціла больш як дзве тысячы навучэнцаў, многія з якіх сталі выдатнымі музыкантамі, настаўнікамі, кіраўнікамі, выбітнымі дзеячамі культуры і мастацтва.

**Галіна ЛЯЙКО**

# Аўтограф для акадэміка

**Сёлета споўнілася 115 год з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага, акадэміка, доктара геолага-мінералагічных навук, заслужанага дзеяча навукі БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і СССР, грамадскага дзеяча. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца архіў вучонага і яго кнігазбор.**

Бібліятэка Гаўрылы Іванавіча доўгі час знаходзілася ў Інстытуце геахіміі і геафізікі Нацыянальнай акадэміі. Шэсць гадоў таму сын вучонага Радзім Гарэцкі, акадэмік НАН Беларусі, геолаг, геатэктонік, перадаў яе ў нашу кніжніцу.

Сёння архіўны збор Г. Гарэцкага ўключае каля 3000 экзэмпляраў кніг, перыядычных выданняў, арыгінальных адбіткаў, аўтарэфератаў кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Самыя раннія выданні — тры кнігі «Инструкций для иследования и описания рек», якія ўбачылі свет у Друкарні Імператарскай Акадэміі навук у 1896 — 1898 гг.

Тэматычна бібліятэка падзелена на дзве часткі. У першую ўвайшлі выданні, звязаныя з прафесійнай дзейнасцю вучонага-геолага: даследаванні вучоных 1960 — 1980-х гг. па геалогіі антрапагену, стратыграфіі, палеаграфіі, палеанталогіі, геамарфалогіі, гідрагеалогіі, інжынернай геалогіі, археалогіі на ўсёй тэрыторыі былога СССР. У другой — кнігі беларускіх літаратуразнаўцаў, фалькларыстаў, гісторыкаў з аўтографамі і дарчымі надпісамі гаспадару і яго сям'і.

Гаўрыла Іванавіч быў адным з найбольш аўтарытэтных вучоных-чацвярцічнікаў Савецкага Саюза, у 1967 — 1983 гг. узначальваў камісію АН СССР па вывучэнні чацвярцёвага перыяду. З усіх канцоў Савецкага Саюза вучоныя дасылалі яму свае даследаванні. Нашчадкам ён пакінуў багатую спадчыну ў выглядзе манаграфій, артыкулаў, справаздач і іншых дакументаў па геалогіі антрапагенавага перыяду.

Акадэмік праводзіў сумесныя даследаванні на тэрыторыі Украіны, прымаў удзел у канферэнцыях па чацвярцёвай геалогіі і геамарфалогіі. Працуючы ў Мінску, супрацоўнічаў з украінскімі геолагамі, з многімі ліставаўся. На кнігах ад украінскіх калег — дарчыя надпісы са словамі ўдзячнасці. Акадэмік сябраваў і з вучонымі з іншых рэспублік былога СССР. Пра гэта сведчаць дарчыя надпісы ад прадстаўнікоў Літвы (М. Кабайлене), Малдавіі (К. Негадаеў-Ніканаў, П. Яноўскі), Грузіі (Д. Цэрэтэлі) ды інш. У кнігазборы шмат выданняў, якія падарылі вучонаму беларускія геолагі, палеантолагі, геахімікі.

Апошнія дваццаць гадоў жыцця Г. Гарэцкі не пакідаў Беларусь. Шмат працаваў, выязджаў на доўгатэрміновыя палявыя работы, аб'ездзіў усю краіну.

У другой частцы кнігазбору Г. Гарэцкага прадстаўлены кнігі беларускіх літаратуразнаўцаў, з якімі вучонага звязвалі сяброўскія, грамадскія і прафесіянальныя сувязі. Інтарэсы Гаўрылы Іванавіча не абмяжоўваліся толькі спецыяльнай літаратурай. Яго вабілі мова і літаратура, гісторыя і этнаграфія, тэатр і музыка. Любоў да роднай мовы ў яго была з дзяцінства. Вучоны гаварыў не толькі па-беларуску і па-руску, але валодаў польскай і нямецкай мовамі. Каштоўны ўнёсак у айчынную культуру зрабіў Гарэцкі, склаўшы сумесна з братам Максімам «Руска-беларускі слоўнік» (Мінск, 1918), які пасля быў дапоўнены і выдадзены пад назвай «Маскоўска-беларускі слоўнік» (Вільня, 1920).



*Дарчы надпіс Адама Мальдзіса.*

Сябраваў з класікамі беларускай літаратуры Янкам Купалам і Якубам Коласам. Пра сустрэчы з Янкам Купалам Гарэцкі ўспамінаў: «У 1918 годзе ў Смаленску жыў і Янка Купала з маладою жонкаю Уладзіславай Францаўнай, жылі яны на Малой Багаслоўскай вуліцы, у прыдалінным частцы горада, у аднапавярховым доме. Купала досыць часта запрашаў Максіма ў госці, брат і мяне браў з сабою. Хоць і цяжка жылося ў той час, але Уладзіслава Францаўна заўсёды была выключна гасцінная і жыццярадасная».

Пасля смерці паэта Гарэцкі наведваў Уладзіславу Францаўну. У лісце да сваёй жонкі Ларысы пісаў: «Быў у Купаліхі. Шмат чаго яна апавядала мне пра апошні год жыцця Купалы. Якія цяжкія ў яго былі перажыванні — ад фізічных хвароб і іншых» (25. 05. 43). І ў другім лісце ад 17. 06. 43 вучоны піша з Масквы жонцы: «Учора быў я ў гасцёх у цёткі Уладзіславы, якая жыве ў гасьцініцы «Масква». Добра пагаманілі. Успамінае яна ўсё Янку, яго апошнія гады. Паказала мне ўсе яго апошнія карткі. Як-небудзь паедзем у крэматорый, укланіцца праху вялікага нашага песняра-прарока...».


*Дарчы надпіс Пятруся Броўкі.*

У кнігазборы захоўваюцца выданні Янкі Купалы ваеннага часу: прыжыццёвы зборнік вершаў і паэм «От сердца» (1941) і пасмяротнае выданне выбраных твораў (1943) пад агульнай рэдакцыяй Якуба Коласа. Адзіная кніжка Купалы з дарчым надпісам у кнігазборы Гарэцкага — «Поэмы» (1978). Яе вучоны атрымаў ад пляменніцы паэта Ядзвігі РамаРаманоўскай: «Даражэнькім Гарэцкім у дзень юбілея Гаўрылы Іванавіча на добрую памятку ад родных Янкі Купалы. Красавік 1980, г. Мінск. Ядвіга Раманоўская».

З Якубам Коласам Г. Гарэцкага пазнаёміў у 1924 г. яго брат Максім. Пясняр і браты Гарэцкія сябравалі на працягу ўсяго жыцця. Іх аб'ядноўвала работа ў камісіях і секцыях Інбелкульта, яны разам удзельнічалі ў канферэнцыях, прысвечаных рэформе беларускага правапісу і азбукі. Якуб Колас дасылаў свае новыя кнігі Гаўрылу і Ларысе Гарэцкім. Пасля выхаду ў свет паэмы «Рыбакова хата» паэт падараваў і яе. Да кнігі быў прыкладзены ліст, у якім Якуб Колас пісаў: «Мае дарагія Ларыса і Гаўрыла! Пасылаю Вам сваю паэму «Рыбакова хата». Прашу прабачэння за неахайны экземпляр. На ім шмат паметак, але ўсё ж чытаць можна. Вельмі прашу Г. І. пачытаць мае падборкі аб сваім сучасным становішчы. Я ўсё ж хачу вярнуць Вас на Беларусь. Я ўсё яшчэ знаходжуся ў становішчы хворага. У лёгкіх усё скончылася, тэмпература нармальная. Хвароба і гады забралі сілу. Доктар усё трымае мяне ў хаце, не пускае на вольнае паветра. Цалую Вас. Пішыце. Якуб Колас. 27. XII. 47». На кнізе аўтограф: «Маім мілым, дарагім землякам Ларысе і Гаўрыле Іванавічу Гарэцкім на добрую памяць. 25. XII. 1947 г.». Гэту кніжку сын акадэміка перадаў у дар музею Якуба Коласа.

У бібліятэцы ёсць кнігі з аўтографамі Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі і інш. З імі вучоны пазнаёміўся падчас вучобы ў Горацкім землямерна-аграранамічным вучылішчы і Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі. У архіве вучонага захоўваецца і перапіска «Гурыка і Уладзіка» (так ласкава называлі адзін аднаго Гаўрыла Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка). Гэтая багатая эпісталярная спадчына сведчыць пра іх адносіны, у якіх не было афіцыёзу, а адчувалася шчырая цікавасць да творчасці адзін аднаго.

У кнігазборы некалькі кніг У. Дубоўкі. У зборніку вершаў «Жёлтая акация» (1970) яго аўтограф: «Дарагім Г. І. і Л. І. Гарэцкім на памяць, ад шчырага сэрца. 15/02. 71 Масква. Ул. Дубоўка».

Вучоны часта бываў у Маскве — удзельнічаў у дэкадах беларускай літаратуры і культуры. Ён з цікавасцю слухаў выступленні, радасна ўспрымаў прамоўцаў, але часам ацэньваў іх крытычна. Пра гэта сведчыць ліставанне вучонага з роднымі. У лісце да Ларысы Восіпаўны ён пісаў: «Паэты выбралі для чытання ў большасці старыя творы ды і чыталі іх не ўсе па-майстэрску. А. Куляшоў добра прачытаў верш «Да аб'еднаных нацый», але мог бы выбраць нешта больш мастацкае... П. Панчанка чытаў кепскавата, хоць і добры верш пра вясковы дом. П. Глебка таксама невыразна прачытаў верш пра мір. К. Крапіва кепска прачытаў стары верш пра асла і сонца. К. Кірэенка тэатральна, але не вельмі ўмела, прачытаў вялікі стары верш, які ён чытаў у гэтай зале... М. Танк чытаў без захаплення, глухім голасам, свой стары верш, які сказаў добра: «А хто вецер пасее, — той буру пажне».



*Дарчы надпіс Пятра Глебкі.*

У бібліятэцы амаль усе выданні твораў беларускіх літаратараў маюць аўтографы, адрасаваныя вучонаму і яго сям'і. Больш за ўсё кніг для дзяцей ад Станіслава Шушкевіча. У зборніку вершаў «Лясная калыханка» (1958) аўтограф паэта: «Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму са шчырым пачуццём і самымі найлепшымі пажаданнямі. Станіслаў Шушкевіч. 20. XII. 1959»; на кнізе «Сарочы церамок» (1959): «Гаўрылу Іванавічу на добры ўспамін. Станіслаў Шушкевіч. 20. XII. 1959».

У год свайго 75-гадовага юбілею Гаўрыла Іванавіч атрымаў падарунак ад беларускіх пісьменнікаў — зборнік вершаў «Слухайце — Хатынь. Слушайте — Хатынь» (1975). На кнізе 32 аўтографы ад І. Шамякіна, А. Астрэйкі, К. Кірэенкі, П. Панчанкі, А. Зарыцкага, С. Грахоўскага, М. Лужаніна, К. Цвіркі, М. Танка, А. Бачылы, А. Вялюгіна, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, П. Броўкі ды інш.

Г. Гарэцкі сябраваў і з вучонымі-гуманітарыямі. Сярод іх — вядомы фалькларыст, літаратуразнаўца, краязнаўца Арсень Ліс, аўтар зборніка «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы» (1984), аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма пра творчасць Максіма Гарэцкага «Прысады жыцця» (1985). У кнігазборы акадэміка яго аўтограф на кнізе пра мастака Язэпа Драздовіча «Вечны вандроўнік» (1984): «Глыбокапаважанаму Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму на згадку пра даўнейшую Беларусь з пажаданнем усяго добрага. А. Ліс. 4. 9. 84».

З часам кнігазбор Г. Гарэцкага значна папоўніўся выданнямі з уласнай бібліятэкі яго сына Радзіма Гарэцкага. І цяпер гэты кнігазбор носіць назву «Бібліятэка Гарэцкіх».

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**Віктар СВЯКЛА,**
**навуковыя супрацоўнікі ЦНБ НАН Беларусі**

**Да 70-годдзя Вялікай Перамогі**

# Беларусь партызанская

Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь у межах святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі праводзіць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на захаванне памяці пра абаронцаў Радзімы, прапаганду патрыятычных ідэй і духоўна-маральных каштоўнасцей у грамадстве.

Перасоўная выстаўка «Беларусь партызанская», прадстаўленая Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, будзе дэманстравацца ў кніжніцы да 11 мая. У экспазіцыі — фотаздымкі ўдзельнікаў ваенных падзей, баявых дзеянняў, агітацыйныя плакаты і іншыя ўнікальныя дакументы, якія распавядаюць пра гісторыю партызанскага руху на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Назвы асноўных раздзелаў выстаўкі гавораць самі за сябе: «Зараджэнне партызанскага руху», «Героі падполля», «Баявая дзейнасць», «Жыццё і побыт у партызанскіх зонах».

**Бажэна СТРОК**

# Ніхто не забыты

Вывучэнне гісторыі Вялікай Айчыннай вайны мае вялікае значэнне ў патрыятычным выхаванні маладога пакалення. У бюлетэні «Новыя кнігі: па старонках беларускага друку» (2015, № 3), што выдаецца Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, змешчаны бібліяграфічны спіс «Паклонімся вялікім тым гадам: да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.» (складальнік Г. Брага). У яго ўключаны апісанні выданняў, у якіх знайшлі адлюстраванне ключавыя падзеі Вялікай Айчыннай.

Спіс складаецца з раздзелаў: «Бессмяротны брэсцкі гарнізон», «Ад заходніх граніц да Масквы», «Бітва за Маскву», «Сталінградская бітва», «Курская дуга», «Аперацыя «Баграціён», «Сцяг Перамогі над Берлінам». Усе часткі суправаджаюцца невялікімі нарысамі, якія дапамогуць карыстальнікам сістэматызаваць ці ўзнавіць веды па гісторыі. Бібліяграфічныя апісанні крыніц дапоўнены анатацыямі, што дазваляе лёгка арыентавацца ў інфармацыі.

Спіс будзе карысны выкладчыкам агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, гісторыкам, бібліятэкарам, навучэнцам і студэнтам, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны. Разам з бібліяграфічным спісам «Праз полымя вайны» («Новыя кнігі», 2014, № 5, дадатак), падрыхтаваным да 70-годдзя вызвалення Беларусі, ён дапаможа стварыць цэласную карціну гераічных старонак мінулай вайны.

**Кацярына ВАРАНЬКО, вядучы бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

# Закаханы ў родны край

Творчы вечар магілёўскага паэта Алеся Казекі прайшоў у Магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным каледжы імя А. С. Пушкіна ў межах святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Алесь Мікалаевіч нарадзіўся на Кіраўшчыне, потым сям'я пераехала ў Быхаўскі раён. Вучыўся на «выдатна» і яшчэ ў дзяцінстве пачаў пісаць вершы. Сачыненні школьніка Алеся ў вершаванай форме не раз перамагалі на раённых і абласных конкурсах. Пасля заканчэння Чачэвіцкай школы паступіў у ваенную ВНУ Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Службу праходзіў у Ціхаакіянскай памежнай акрузе, Бранску, Магілёве. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў бацькаву хату. Працаваў настаўнікам, праз некалькі год пераехаў у Магілёў. Але ў душы застаўся паэтам, закаханым у родны мясціны.

Падчас вечарыны гучалі вершы і песні на словы творцы ў выкананні кампазітара Мікалая Яцкова. Навучэнцы каледжа прадставілі тэатралізаваныя замалёўкі з паэмы А. Казекі «Час сяўбы». Асаблівая ўвага — паэме «Марыйка». Гэта паэтычнае асэнсаванне мінулай вайны вясковай дзяўчынай, якая цудам выжыла, страціўшы ўсіх родных.

**Алена КАНДРАЦЕНКА, загадчык бібліятэкі Магілёўскага дзяржаўнага бібліятэчнага каледжа імя А. С. Пушкіна**

# Маладым паэтам

Магілёўская абласная бібліятэка сумесна з Магілёўскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі правялі літаратурны конкурс «У нашай памяці жыве», прысвечаны памяці земляка, паэта-франтавіка Аляксея Пысіна.

У творчым спаборніцтве ўдзельнічалі каля 50 маладых людзей з 12 раёнаў і гарадоў Магілёўшчыны. Найбольшую актыўнасць праявілі юнакі і дзяўчаты ад 14 да 18 гадоў. Сярод прадстаўнікоў навучальных устаноў вызначыліся студэнты Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта харчавання, Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, навучэнцы гімназій і сярэдніх школ г. Быхава, Быхаўскага і Касцюковіцкага раёнаў.

Па ініцыятыве абласной бібліятэкі па выніках конкурсу будзе выдадзены зборнік вершаў маладых паэтаў, рэдактарам якога выступіць старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў.

**Тамара КАЛІНІНА, загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# «Жывыя» кнігі

Сёння ў Навуковай бібліятэцы Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта пройдзе «Бібліяноч-2015» — найбуйнейшая акцыя ў падтрымку чытання, якая адначасова ладзіцца на больш як 1200 пляцоўках у Расіі, Украіне і Беларусі.

У гэтую ноч кніжніцы, кнігарні, літаратурныя музеі і арт-прасторы пашыраюць час і фармат сваёй дзейнасці. Навуковая бібліятэка БНТУ будзе адчынена да 23.00, каб наведвальнікі змаглі паспець на ўсе пляцоўкі, якія працуюць у рэжыме нон-стоп.

Гасцей чакае шмат цікавага: праграмы «Кіно як вечны рухавік» (паказ кароткаметражнага фільма ад Міжнароднага фэсту CinemaPerpetuumMobile); «Пад замком» у бібліятэцы: жывы квэст»; інтэрактыўны семінар-шоу «Навука са смакам»; «Жывыя людзі — жывыя гісторыі» (замест звыклых кніг вам прапануюць паразмаўляць з людзьмі, якія распавядуць цікавыя гісторыі са свайго жыцця); літаратурныя настольныя гульні; канцэрт беларускіх груп і маляўнічае фаер-шоу ў двары бібліятэкі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Ішлі жанчыны па вайне...

Праект Бярэзінскай раённай бібліятэкі «70 патрыятычных спраў», прымеркаваны да 70-годдзя вызвалення Беларусі і 70-годдзя Вялікай Перамогі, стартаваў год таму.

Першай значнай акцыяй 2015 г. на Бярэзіншчыне стала агіткампанія «Вясна. Жанчына. Перамога», зладжаная ў творчай садружнасці бібліятэкараў раённай кніжніцы і Бярэзінскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын». Вайна і жанчына — паняцці, здавалася б, несумяшчальныя. Гістарычны феномен Вялікай Айчыннай: яшчэ ніколі ў гісторыі чалавецтва столькі жанчын не змагалася з ворагам.

Цяпер на Бярэзіншчыне засталося ўсяго дзесяць удзельніц вайны. Старэйшай з іх, жонцы партызана і былой сувязной Ганне Фёдараўне Губіч, 103 гады. Соф'я Пятроўна Стасевіч, Лідзія Раманаўна Сухарукава і Таццяна Фамінішна Шык адзначаць сёлета 90-годдзе, жыхарка аграгарадка Лешніца, былая санітарка, Любоў Трафімаўна Смалячкова, — 95-гадовы юбілей.

Бібліятэкары і актывісткі жаночага руху наведалі дома шаноўных зямлячак і ўручылі ім вершаваныя святочныя буклеты Бярэзінскай раённай бібліятэкі, падарункі і памятныя фотаздымкі.

Навінкай праекта Бярэзінскай ЦБ «70 патрыятычных спраў» сёлета стаў агітпоезд мужнасці «Вайна. Бярэзіншчына. Памяць». Гэта мабільная форма пазнаёміць жыхароў аграгарадкоў і вёскак з тэатралізаванымі праграмамі «Ішлі дзяўчаты па вайне», «Забранае вайной дзяцінства» ў межах акцыі «Дзіцячы прысуд вайне», «Вайна страляла ў кожнага» «Белы журавель памяці» ды інш. Летам пройдзе выязная акцыя «Манумент памяці» з наведваннем помніка ахвярам Бярэзінскага раёна.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ, загадчык аддзела маркетынгу Бярэзінскай ЦБ**

# Чытаем усёй сям'ёй!



Фота Алены Езубчык

*Сям'я Герасімавых — лепшыя чытальнікі.*

**У межах Тыдня дзіцячай кнігі Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска арганізавала Фестываль дзіцячага чытання, падчас якога ўшанавалі лепшыя сем'і-чытальнікі з 18 дзіцячых кніжніц сталіцы. У Цэнтральную дзіцячую бібліятэку імя М. Астроўскага на свята завіталі бацькі, бабулі і, вядома ж, галоўныя чытачы — дзеці.**

У святочна ўпрыгожаных залах гасцей чакала шмат цікавага і вясёлага. Дзеці і дарослыя з задавальненнем разгадвалі загадкі, удзельнічалі ў віктарынах. На малодшым абанеменце каля хаткі Карлсана праводзілася фотасесія «У госці да Карлсана на ракеце».

У інтэрактыўнай зоне творчасці «У гасцях у Мар'і-майстрыхі» гасцям прапаноўвалася пазнаёміцца з выстаўкай работ маленькіх чытачоў. Шмат станоўчых эмоцый у дзяцей і іх бацькоў выклікаў майстар-клас па выразанні велікодных яек. З роляй Мар'і-майстрыхі выдатна справілася Марыя Белая, бібліятэкар дзіцячай бібліятэкі № 9.

Водгукі госці пакідалі ў своеасаблівым чаце «Я люблю чытаць, таму што...»: «Чытанне для мяне — гэта не проста захапленне, гэта выдатны адпачынак. Гэта іншы, новы, не падобны на наш свет, у якім ты сам уяўляеш усё навокал», «Кніга — свет, у які можна патрапіць у любы час. Галоўнае — захацець!», «Калі ты чытаеш, паглыбляешся ў адмысловы свет, свет кнігі, ты забываешся на ўсе свае праблемы і выпраўляешся ў неверагодныя прыгоды».

На выстаўцы-рэкамендацыі «Чытай-сям'я» бацькі актыўных наведвальнікаў пазнаёміліся з матэрыяламі ў падтрымку сямейнага чытання, падабранымі супрацоўнікамі бібліяграфічнага аддзела, з рэкамендацыйнымі спісамі літаратуры для дзяцей. Цікавасць у прысутных выклікала экспазіцыя лепшых бібліятэчных закладак, створаных маленькімі чытачамі да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Выдавецкі дом «Звязда» прадаставіў кніжніцы выстаўку дзіцячых кніг беларускіх аўтараў.

Урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў — самая чаканая частка фэсту. Дырэктар Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі Таццяна Швед павіншавала сем'і, якія сябруюць з кнігай, і ўручыла падзякі і падарункі.

А якое ж свята чытання без пісьменнікаў! На фестывалі падвялі вынікі конкурсу «Бібліязважанне» (пераможцаў вызначалі па колькасці ўзятых у бібліятэках кніг). У намінацыі «Аўтар года» перамог Валерый Кастручын — дзіцячы пісьменнік, які добра ведае свет прыроды, разумее, пра што «гавораць» звяры і птушкі. А кнігамі-пераможцамі ў намінацыі «5 лепшых кніг беларускіх аўтараў» сталі «Казкі Сіняй падушкі» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, «Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй» Наталлі Бучынскай, «Прыгоды Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча, серыя кніг «Вялікая маленькая дзяўчынка» Мары Бершадскай. Усе аўтары-госці фэсту атрымалі дыпломы. З кнігамі творцаў знаёмілі маляўніча афармленыя выстаўкі «Аўтар года: Валерый Кастручын» і «Бібліятэкары раяць пачытаць».

**Вольга КАХНОВІЧ, намеснік дырэктара Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска**

# Кветкі Купалавага дома

**Незвычайная выстаўка адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы. На карцінах мастачкі Аксаны Аракчэевай — супрацоўніцы ўстановы.**


*«Санеты». Алена Ляшковіч. 2015 г.*

Пераемнасць — першае слова, якое прыходзіць у думкі, калі гаворка вядзецца пра сям'ю Аракчэевых. Тры дачкі і чатыры ўнукі прадаўжаюць справу пачынальніка мастацкай дынастыі — Барыса Уладзіміравіча. Шляхамі вайны творца апынуўся ў 1944 годзе на беларускай зямлі і застаўся тут назаўсёды! Самастойна ён вывучыў беларускую мову, каб чытаць Купалу ў арыгінале. За гадзіну да смерці 10 сакавіка 2015 года мастак скончыў палатно, прысвечанае Песняру...

Партрэт Купалы рукі Барыса Аракчэева ўвайшоў і ў склад выстаўкі «Купалінкі». Але ж галоўная ўвага ў экспазіцыі — жаночым партрэтам, сярод якіх і партрэт Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы, намаганнямі, энергіяй і любоўю якой быў створаны калісьці музей Песняра.

— Гэта выстаўка незвычайная, — зазначыла дырэктар музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч, — бо тут партрэты людзей, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі ўшанаванню памяці Янкі Купалы. Таму назву выстаўкі трэба вымаўляць «КупАлінкі» — ад слова Купала. У гісторыі нашага музея ёсць тры вызначальныя жанчыны: першы дырэктар Уладзіслава Луцэвіч, пляменніца паэта Ядзвіга Раманоўская, якая доўгія гады была галоўным захавальнікам фондаў і ўнучатая пляменніца Янкі Купалы Жанна Дапкюнас, якая працягвала справу У. Луцэвіч і адпрацавала дырэктарам 16 гадоў.

Жанна Казіміраўна, якая прысутнічала на адкрыцці, прапанавала паступова пашыраць галерэю партрэтаў, прадстаўляць і тых, хто стаяў ля яго вытокаў.

Кожны партрэт мае адметную кампазіцыю. Да таго ж, мастачка імкнулася ёмка абазначыць кожную карціну: «Панначка», «Папарацькветка», «Лянок», «Санеты», «Кветка-лілея» ды



*«Кветка-лілея». Уладзіслава Луцэвіч. 2015 г.*

інш. Як прызналася сама Аксана Аракчэева: «Вялікі гонар і асалода пісаць такія палотны. Выстаўка «Купалінкі» — мая падзяка Купалаваму дому!»

Падчас адкрыцця выстаўкі «Купалінкі» мастачцы Аксане Аракчэевай быў уручаны дыплом сябра музея «За папулярызацыю спадчыны Першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і падтрымку дзейнасці музея».

**Таццяна ШЫМУК**

# Нояўныя рэчы

Праектная фатаграфія для Беларусі — з'ява адносна новая. На Захадзе ўжо даўно не працуюць з адзінкавымі здымкамі: фатографы прызвычаіліся думаць серыямі — стылістычна, семантычна і візуальна аформленымі тэкстамі, якія робяць аўтарскае выказванне найбольш поўным. Гэта доўгая праца, калі з сотняў здымкаў, зробленых у пэўных тэхнічных умовах і аб'яднаных агульнай ідэяй, выбіраецца некалькі асноўных, дзе закладзена сутнасць.

У нашай краіне існуе цэлае пакаленне фатографаў, якія здымаюць даўно і плённа, але іх праекты рэдка дзе выстаўляюцца, а саміх фотамастакоў кранальна адносяць да шэрагу «маладых». На выстаўцы «Артэрыя» ў Цэнтры сучасных мастацтваў прадстаўлены сем аўтараў, кожны — з невялікай серыяй. Зробленыя, як усё добрае, «для сябе», гэтыя работы так і засталіся б у стале, калі б не збег абставінаў.

Каця Смурага — аўтар добра вядомы ў прафесійным фатаграфічным асяроддзі, пры гэтым выставачна нідзе ў Беларусі не прадстаўлены. Яе партрэты тонкія і пачуццёвыя. «Ліст з Ціхага горада» — спроба ўбачыць у вачах іншых людзей ужо амаль забыты вобраз горада яе дзяцінства.

Лена Пратасевіч скончыла Мінскую школу фатаграфіі, працавала рэдактарам інтэрнэт-часопіса «Coloroom». Вядзе курс па сучаснай фатаграфіі, распрацаваны Ягорам Войнавым. Яе серыя «Другі крок» — перажыванне новага


*Каця Смурага «Ліст з Ціхага горада».*

досведу — мацярынства. Работы сумленныя і «непрыхарошаныя». Такое мацярынства не прынята здымаць. Лена — прыхільнік сучаснай фатаграфіі, у якой усё — гульня сэнсаў, слоў і адчуванняў, пытанняў і адказаў.

Андрэй Карачун пачынаў з класічнай фатаграфіі, працаваў з пастановачным, жанравым партрэтамі. Тое, да чаго прыйшоў зараз, — пазнанне нанова. Серыя «Няяўныя рэчы» — пра самадастатковасць прыгажосці.

«Impossible» Алены Кахановіч — рамантычныя нататкі на паляроід, дзе ўсе падарожжы зліваюцца ў адно — пачуццёвае. Класічны фотаздымак прадстаўлены некласічна: ад манументальнасці гарадскіх пейзажаў няма і следу. У памяці застаюцца толькі абрысы далёкага горада N.

Юлія Назарава — фатограф, які любіць эксперымент. Шлях ад класічнай фатаграфіі да сучаснай прайшла за вельмі кароткі час. У маі 2014 дэбютавала выстаўкай цыянатыпіі. Серыя сучаснай фатаграфіі «Час пераходу» — спроба ўсвядоміць сябе ў перыяд «паміж»: тут і там, выдыхам і ўдыхам, смерцю і новым нараджэннем.

Вольга Таляронак прадставіла серыю «Days of Gray» — сумесь цыянатыпіі і эксперыментальнай плёнкі пасля падарожжа па Ісландыі. Гэта два розныя адчуванні, перададзеныя ў форме класічнай фатаграфіі і падарожных нататак. На стужцы як тонкае адлюстраванне наваколля захаваны поўны прыгажосці знешні Свет і свет унутраны.

Ягор Войнаў — аўтар Гадавога курса фатаграфіі, які прайшлі многія фатографы. Прадстаўленая на выстаўцы серыя «Парадны ўваход» з парыжскіх могілак Пер-Лашэз прапануе зняць табу на сакральнае і паразважаць пра тое, што там, за замкамі і рашоткамі: памяць, вера..? А можа, проста страх перад невядомасцю?

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 23.04.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2229.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1468 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.